

Гайнаўскі форум→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714



Кастусь Масальскі→8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 48 (3003) Год LVIII | Беласток, 01 снежня 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Мабілізацыя асяроддзя

З **Барбарай Пякарскай**, старшынёй Аб'яднання бацькоў у карысць беларускай адукацыі АБ-БА, каардынатаркай ад беларускага боку ў працэсе стварэння „Стратэгіі развіцця асветы беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы".



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Частка працоўнай групы. Злева: Славамір Іванюк, Ян Чыквін, Ірэна Яблушэўская, Ігар Лукашук, Аліна Ваўранюк, Барбара Пякарская, Яўген Вапа, Андрэй Сцепанюк

Ніва: **— На якім этапе знаходзіцца апрацоўка „Стратэгіі развіцця асветы для беларускай меншасці ў Польшы"?**

Барбара Пякарская: — Ну, ужо мы канчаем. Чакае нас апошняя сустрэча ў малой працоўнай групе з прадстаўнікамі Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, і калі дамовімся з імі наконт дэталяў, чакае нас яшчэ адна вялікая сустрэча — як на самым пачатку — з прадстаўнікамі школ і арганізацый.

Н: **— Ці ўсе прапановы, якія выйшлі з беларускага боку, былі адобраны МАіЛ?**

БП: — Вядома, не ўсе, хоць даволі многа прапаноў удалося нам запісаць у дакумент. Іншая справа, як будзе выглядаць іх рэалізацыя; частка з іх можа застацца ў сферы нашых пажаданняў...

Н: **— Назавіце, калі ласка, канкрэты.**

БП: — Напрыклад, з нашага боку выйшла прапанова, каб стварыць, з дапамогай Маршалкоўскай управы, Цэнтр удасканальвання настаўнікаў. Нам хацелася б, каб такая ўстанова супрацоўнічала з настаўнікамі і беларускімі арганізацыямі ў галіне адукацыі ў шырокім плане. Гэта і арганізацыя майстар-класаў, і выдаванне часопіса, прысвечанага адукацыйным праблемам нашага асяроддзя.

У асноўным, калі ідзе пра дакумент, нашай мэтай з'яўляецца такая мадэль навучання, каб вучні з мясцовасцей, дзе кампактна пражываюць беларусы, мелі магчымасць нацыянальнай адукацыі ад прадшколля па паслягімназічныя школы.

Н: **— На сустрэчах з прадстаўнікамі ўрада шмат разоў Вы падымалі праблему празрыстасці фінансавання нацыянальнай адукацыі. Якія вынікі размоў?**

БП: — Справа з празрыстасцю даволі складаная. Ёсць фінансы, частка якіх непасрэдна ідзе ў гміны, і частка, якая ідзе на навучанне мовы меншасцей. Нам удалося дабіцца таго, каб у „Стратэгіі" апынуўся запіс аб тым, што Міністэрства нацыянальнавй адукацыі кожны год будзе публікаваць на сваіх сайтах інфармацыю адносна таго, якія грошы ідуць у гміны, дзе вядзецца навучанне беларускай мове.





Н: **— Як ацэньваеце ангажаванасць самаўрадаў у працу над падрыхтоўкай дакумента?**

БП: — Можна сказаць, што гэтай ангажаванасці няма. На пачатку працы мы разаслалі інфармацыю ва ўсе школы, а потым разаслалі пісьмы ва ўсе самаўрады. Адказаў атрымалі пяць, з чаго на апошніх трох сустрэчах з'явілася толькі адна прадстаўніца самаўрадаў, апошніх чатырох не было. Таму можам сказаць, што супрацоўніцтва няма.

Н: **— Праца над дакументам трывае ўжо больш за паўтара года. Ці сустрэчы з настаўнікамі і прадстаўнікамі арганізацый нешта пазітыўнага прынеслі нашаму асяроддзю?**

БП: — Усе мы згодна дайшлі да вываду, што гэтая праца была нам вельмі патрэбная. Людзі, якія сустракаліся ў працоўнай групе, вельмі ангажаваныя. Мы сустракаемся і гаворым аб тым, чаго нам не хапала, гаворым пра планы, пра тое як вырашаць праблемы. Я асабіста вельмі цешуся, што ў нас адбылася такая мабілізацыя асяроддзя, што мы супольна плённа працавалі над дакументам. Думаю, што гэта не скончыцца разам з напісаннем „Стратэгіі". Згодна з планамі, мы раз у год будзем сустракацца, каб абмяркоўваць рэалізацыю дакумента намі і ўрадавым бокам. Тады будзем бачыць як на практыцы выглядае рэалізацыя планаў.

**Гутарыла Ганна КАНДРАЦЮК**

Вокладка *Лемантара* для 2 класа, выдадзенага Аб'яднаннем АБ-БА ў гэтым годзе





З нагоды чарговых угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну **Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла** звярнулася да беларусаў са сваім традыцыйным віншавальным зваротам.

*ДЗЕНЬ ГЕРОЯЎ 2013*

*Дарагія Суродзічы!*

*Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, вітаю Вас з угодкамі Слуцкага Збройнага Чыну — Днём Герояў Беларусі.*

*Кожны год, мы сьвяткуем гэты восеньскі дзень, каб прыпомніць і аддаць чэсьць тым адважным Случчаком, якія ўзялі на сябе заданьне абараніць сваю зямлю ад бальшавіцкай навалы.*

*Дарагія Суродзічы! Случчакі жывуць таму, што мы іх памятаем. А таму, што мы іх памятаем, і мы жывём! І ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!*

*Усе мы ведаем пра ролю памяці ў жыцьці кожнага народу.*

*У канадзкай правінцыі Кэбэк, дзе я жыву, народным дэвізам ёсьць JE ME SOUVIENS! (Я ПАМЯТАЮ). Нашую памяць акупанты стараліся выкараніць на працягу двух стагодзьдзяў, бо ведалі, што без памяці народ памрэ. Аднак нашая нацыянальная сьведамасьць, па якой і свае і чужыя нераз адпраўлялі паніхіды, перамагла ўсе спробы генацыду. Памяцьцю мы даказалі нашую жыцьцяздольнасьць.*

*Апошняя надзея нашых ворагаў — выкараніць з памяці народу беларускую мову. Ня ведаю як Вам, але мне падаецца, што і тут яны прайграюць! Я моцна веру, што і тут пераможа нашая генэтычная памяць, бо наш цярплівы народ не адмовіцца ад жыцьця. Выратуем мы і нашую цудоўную мову.*

*Жывуць Случчакі!*
*Жыве Беларусь!*
*Будзе жыць беларуская мова!*
*Бо мы памятаем!*

***Івонка Сурвіла***
*Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*
*Лістапад 2013*



# Усё з пачатку

Ну вось і ўсё. Нядоўга музыка гучала, ці — як жартавалі ў дзяцінстве — нядоўга дрыгаўся электрык у высакавольтных правадах. Украіна не будзе падпісваць такое доўгачаканае пагадненне з Еўрасаюзам. Прынамсі зараз падпісваць не будзе. Так вырашыў самы ўплывовы чалавек планеты Уладзімір Пуцін і абвясціў гэта ўсяму свету вуснамі ўкраінскага прэзідэнта.

Пакуль еўрапейцы з амерыканцамі гулялі паміж сабой у быццам бы дыпламатычную гульню пад назвай „лапрасі прабачэння за праслухоўванне тэлефонаў", Уладзімір Пуцін сустрэўся з Віктарам Януковічам у такім месцы, дзе іх не толькі праслухаць не змаглі, але нават гэтага месца не вызначылі. І там, у цішы і ўтульку забяспечаных адмыслова падрыхтаванай аховай, расійскі лідар хіба што на пальцах растлумачыў свайму ўкраінскаму калегу, што яго, Пуціна бачанне гістарычнага развіцця суседняй рэспублікі, значна важнейшае, чым бачанне мільёнаў украінцаў.

Еўропа шакаваная. Яна не можа зразумець што робіцца. Хоць расійскі кіраўнік ледзьве не адкрытым тэкстам заявіў, што пра лёс украінцаў і будучыню Украіны трэба размаўляць менавіта з ім — з расійскім начальнікам Уладзімірам Пуціным. Маўляў, Украінай ужо даўно кіруюць людзі, якім Украіна непатрэбная. Гістарычна так склалася. І хто гэтую гісторыю складаў, таму ў Расіі помнікі стаяць. Таму, маўляў, традыцый разбураць не варта.

Пуцін, нібыта, не супраць правесці з еўрапейцамі так званыя трохбаковыя перамовы, дзе будуць вырашаць лёс Украіны ён і еўрапейцы. Украінскаму кіраўніку таксама дазволяць папрысутнічаць, каб пасля не губляць час на тлумачэнні вырашанага. Ну і каб нейкім чынам вытлумачыць наіўным журналістам, чаму перамовы называюцца трохбаковымі. І тут заангажаванасць Пуціна зразумець можна. Ён, з-за бяззубасці і нерашучасці сённяшняй еўрапейскай і амерыканскай палітыкі, дасягнуў вышыні сваёй кар'еры. Ён не дазволіў пачаць амерыканцам высадку войскаў у Сірыі, абыграўшы нерашучасць Абамы на ўсіх франтах. Ён указвае еўрапейцам на парушэнні правоў чалавека ў іх краінах. Зараз ужо і Расія разам з Кітаем будуць вызначаць у ААН стандарты гэтых правоў. Гэта пад ахову Пуціна ўцякае з Амерыкі Сноўдэн, дэманструючы ўсяму свету давер расійскаму боку ў справе разумення справядлівасці. Гэта Пуцін адабраў ад Грузіі кавалак зямлі, і ніхто не змог яму перашкодзіць. Гэта яго, Пуціна дасягненні і перамогі, можна пералічваць бясконца. І тут раптам без яго ўдзелу еўрапейцы вырашылі ашчасліваць украінцаў. Такому не бываць! Не для таго ён падтрымліваў Віктара Януковіча, каб той зараз вырашаў лёс Украіны без яго.

Ды і як можна было не перайграць нерашучых еўрапейцаў?! Асабліва такому гульбаку як Пуцін. Іх абавязкова трэба перайграць. Дзе яны былі са сваімі прапановамі, калі Украінай кіраваў праеўрапейскі Віктар Ючшанка, а Юлія Цімашэнка яшчэ была на свабодзе і змушана падпісвала газавае пагадненне з усё тым жа Пуціным, у чым яе зараз і вінавацяць. Гэта тады варта было падтрымаць Украіну і вырашыць усе пытанні. Гэта тады кіраўніцтва Украіны з радасцю прыняло б інтэграцыю з Еўропай. Але еўрапейскія палітыкі пачалі звыклую гульню пад назвай „жаванне смаркачоў" і занудна разважалі, што Украіна пакуль яшчэ не гатовая да еўраінтэграцыі. Эканоміка, маўляў, слабая.

Дык а што здарылася зараз?! Няўжо Януковіч так моцна эканоміку падняў?! Украінцы гэтага неяк не заўважылі. Ці можа правы чалавека на Украіне пры Януковічу сталі эталонам? Ці якія іншыя еўрапейскія стандарты і каштоўнасці дасягнулі ўзроўню ідэалу?

Здаецца, не. І зараз еўрапейцам пра будучыню Украіны прыйдзецца дамаўляцца з Пуціным. Ён чарговы раз пацвердзіў званне самага ўплывовага чалавека планеты. Ён, хіба што, хутка і лёс самога Еўрасаюза вырашаць будзе. Ну, а што з перамоваў па Украіне атрымаецца, відома ўсім, акрамя еўрапейскіх перамоўшчыкаў.

Затое ва ўкраінцаў ужо больш не будзе ілюзій наконт еўрапейскай падтрымкі. І яны ўсё больш разумеюць, што іх праблемы прыйдзецца вырашаць толькі ім самім. Таму і бяруць намёты ды сунуцца ў бок майдана, як у старыя добрыя часы, каб пачаць усё з пачатку.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Беларускія шкарпэткі



Землякоў, якія ездзяць па пакупкі ў Польшчу па таннейшае чым у Беларусі электроннае абсталяванне, адзенне і прадуктовыя артыкулы, газета «Рэспубліка» параўноўвае з паразітамі. Паразіты, значыць, звычайныя настаўнікі, чыноўнікі, інжынеры, рабочыя і наогул мужы жонак і жонкі мужоў, таксама міліцэйскія і ваенныя, якія пад ціскам шлюбнага пантофліка перасякаюць польска-беларускую мяжу ў сховe грамадзянскіх шматак. Іх шмат у Беларусі. Я маю на ўвазе паразітаў. Міліцыі і ваенных, да таго ж, таксама. У любым выпадку, у прапорцыі да колькасці насельніцтва іх больш у чатыры разы, чым у Польшчы. Яны не сеюць, не аруць, а жывуць. Але, вядома, кожны хоча жыць. А чым больш лёгкае жыццё, тым больш хочацца жыць, атрымліваць асалоду ад кожнага дня службы, пахвалы кіраўніцтва, квартальнай прэміі і гадавой дзяржаўнай адзнакі. Аналагічнай філасофіяй кіруецца кляймаваны «Рэспублікай» паразіт. Ён таксама хоча жыць лепш, выгадней, танней. І рэалізуе гэта з немалым высілкам. Ад міліцыянта можна яго лёгка адрозніць. Першы з іх з'яўляецца па вызначэнні патрыётам, таму што ў дзяржаўнай форме мусіць такім быць. Ён таксама паказчык грамадскага парадку і павагі да ўлады. Той другі кіруецца эгаізмам, а ўладзе заўсёды робіць наперакор. Вось, такі паразіт. Упарта змякчае цвёрдыя беларускія рублі, замяняючы іх на касмапалітычныя, забруджаныя гендэрствам і підарствам дэмакратыі долары. Але гэта яшчэ не ўсё. Бо перакідвае іх кантрабандай у Польшчу і там мянае на залатоўкі. Вядома паўсюдна, у рэшце рэшт, што польская валюта нічога не вартая, таму паразіт адразу пазбаўляецца ад яе ў крамах. У польскіх крамах. У беларускіх фактычна не купіў бы нават за мільён злотых праславутага пачка запалак, якія, праўда, набудзе за тузін капеек. Гэты прыклад паказвае, канчаткова, што беларускі рубель трымаецца надзейна ў параўнанні з макулатурнай залатоўкай. На жаль, вышэйзгаданы паразіт не патрапіць роднага рубля паважаць, гвалтуючы яго цвёрды курс валютнымі спекуляцыямі і што яшчэ горш, напаўлегальным імпартам замежных вырабаў. І ён з'яўляецца значным. Ацэньваецца ён у 3 мільярды долараў у год, а гэта абазначае, што больш-менш на такую вартасць павялічваецца рэзерв непрададзеных тавараў айчыннай вытворчасці. Аж страх падумаць, што будзе праз некалькі гадоў. Бо народ гаруе, як шалёны. Заводы не спыняюць вытворчасці. Чыноўнікі не спачываюць на лаўрах і што і раз павышаюць нормы вытворчасці. Клапоцяцца таксама за працоўную дысцыпліну. І прывязанасць да яе. Больш літаральна, чым у пераносным сэнсе. Не можа быць так, што лятаеш сабе ад прадпрыемства да прадпрыемства. Няма часу на міны, фумы і капрызы. Прывязанасць да працы складае каштоўнасць работніка. Нават калі такі не ўмее вязаць на прутках, няхай вяжа, прынамсі, паветра. Таму што самае галоўнае — праца. Выраблянне абы чаго, абы як. Каб работа гарэла ў руках. Ну і што з таго, што прыфабрычныя склады трашчаць па швах, паліцы крам рыпяць пад цяжарам артыкулаў са знакам «Зроблена ў Беларусі», калі ніхто іх не купляе? Беларусы працуюць, вядома, за дваіх, за траіх. За столькіх жа і зарабляюць. Хапае ім таму на ўсё, чаго толькі зажадаюць. Толькі што жадаюць чагосьці іншага, чым самі вырабляюць. Таму едуць у Польшчу, Літву, Расію і «прывязуць — па словах Аляксандра Лукашэнкі — нейкае барахло, якое і так вырабляем». Ну, проста, барахло! Па словах прэзідэнта, аднак, лепшае нацыянальнае. Паразіт — як звычайна — мае іншае меркаванне. Лепшае яму замежнае. І тут трэба аддаць належнае ўладзе. Паразіт не паразіт, але ён свой, нечужы, незамежны. Ён — беларускі. І гэта найбольш важнае для ўлады. Такім чынам, на старонках «Беларускай нівы» перасцерагае яго ад польскіх гандляроў, якія ўпіхваюць беларусам заходні хлам, электроннае барахло і іншае атрыманае з перапрацовачнага абароту спажывецкае смецце. Але ці паразіт слухае голас розуму? А дзе там! Так што ўлада, кіруючыся бацькоўскім клопатам, ужо задумвае, як утаймаваць нястрымны паразітызм у паразітах. Згодна з яе ўступным праектам, кожны грамадзянін, які вяртаецца з замежжа, павінен будзе ўплаціць высокую мытную пошліну за тавары, увезеныя ў краіну. Незалежна ад таго, ці паехаў ён у якасці турыста або для дзелавых мэт, а яго чамадан запоўнены да краёў бруднымі шкарпэткамі. Бо беларус — паразіт ці непаразіт, дбайлівы пра гігіену. Толькі як ён дакажа, што ягоныя шкарпэткі — беларускія?

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Міхалова: падаткавы рай?

Сенсацыя абабегла ўсе СМІ ў апошні час. Хутчэй за ўсё, самаўрад першай у Польшчы гміны — Міхалоўскай — вызваліць жыхароў (фізічныя асобы) ад неабходнасці плаціць падатак на маёмасць. Адпаведную пастанову па гэтым пытанні 21 лістапада прыняла Гмінная рада па прапанове мясцовага бурмістра Марка Назаркі. Жыхары мелі б не плаціць падаткаў за жылыя і гаспадарчыя будынкі і грунты пад імі.

Бурмістр з гонарам абвяшчае: „Мы прынялі гэтае рашэнне таму, што гміна знаходзіцца ў стабільнай фінансавай сітуацыі. Гэта дазваляе нам аблегчыць нашым жыхарам. Хочаш быць вызваленым ад падаткаў, стань жыць у Міхалове. Мы лічым, што гэта будзе стымулам для людзей, каб хацелі будавацца і жыць у Міхалове. Кожная гміна павінна ажыццяўляць дзейнасць у галіне развіцця і калі прытым выкарыстоўваюць гэта на карысць нашы жыхары, тым больш варта. Пажылыя людзі будуць мець больш грошай на лякарствы, а бацькі — на падручнікі або іншыя патрэбы сваіх дзяцей".

Падкрэсліваe пры нагодзе, што, зрэшты, дасюль неахвотна адзначае ў іншых выпадках — што дзеянні самаўрада Міхалова сканцэнтраваны на стварэнні прывабных умоў для інвестыцый у Міхалове. І факт, ёсць шматлікія інвестыцыі ў інфраструктуру спорту, культуры і турызму. Акрамя таго, гміна мае значны турыстычны патэнцыял з-за прывабнага месца на стыку Кнышынскай і Белавежскай пушч. У бюджэце на 2014 год запісана 11,5 мільёна на інвестыцыйна-рамонтную дзейнасць, што складае 43% ад усяго бюджэту, а яшчэ многа еўрасаюзных заяў чакае ацэнкі. Доўг гміны складае 28,65%. Штогод прыход з падатку на маёмасць прыносіў 300-500 тысяч злотых. У сярэднім за ўчастак з домам і гаражом гэты падатак індывідуальна складае каля 600 злотых у год. Бурмістр запэўніў, што забяспечаны грошы на бягучыя выдаткі і інвестыцыі. 21 лістапада міхалоўскія радныя таксама вырашылі змяніць план прасторавага добраўпарадкавання, вылучаючы новыя ўчасткі для жыллёвага будаўніцтва. Магчыма, гэта таксама звязана з тым, што бурмістр спадзяецца, што вызваленне ад падатку на маёмасць прыцягне больш людзей у гміну, а за імі «прыйдуць» грошы ў бюджэт з удзелу ў падатку ад фізічных асоб. Адказваючы на пытанне Польскага агенцтва друку, у выніку чаго добрая бюджэтная сітуацыя ў гміне, што паміж горадам і вёскай, у сем тысяч жыхароў, можа дазволіць сабе такія падаткавыя льготы сказаў, што нямa ў яе ніякіх фінансавых праблем як у тыповых мясцовых органаў улады, напрыклад, выдаткі на адукацыю будуць збалансаваныя, нізкая таксама плата за смецце. Свае магчымасці развіцця Міхалова вяжа з планамі на паўстанне на сваёй тэрыторыі падляшскага рэгіянальнага аэрапорта, які павінен быць размешчаны ў непасрэднай блізкасці ад вёскі Тапаляны. Працягваюцца кансультацыі з грамадскасцю па гэтым пытанні, а ў Рэгіянальнай дырэкцыі Аховы асяроддзя ў Беластоку працягваюцца працы над экалагічным рашэннем для гэтага размяшчэння. Ёсць таксама запісаны еўрасаюзныя сродкі для гэтай мэты ў праекце новай Рэгіянальнай аператыўнай Праграмы Падляшскага ваяводства на 2014-2020 гг. Што важна, Міхалоўская гміна мае таксама выгоды ад таго, што па яе тэрыторыі праходзіць нітка ямальскага газаправода і ў Кандратках знаходзіцца газакампрэсарная станцыя. У гмінным бюджэце на 2014 год апынецца з падаткаў на гэты конт каля 7 млн. злотых. Агулам прыбыткі гміны складаюць каля 23 млн. злотых. Пасля абвяшчэння падаткавых ільгот гміна страціць каля паўмільёна. Бурмістр Назарка спадзяецца, што на працягу 2-3 гадоў абшчына пачне пажынаць плён рашэння аб адмове ад падаткаў на нерухомасць. А ўсё з-за „цудоўнага" пасялення ў пусцеючай гміне, размешчанай у трыццаці кіламетрах ад Беластока, дзе нялёгка з працай. Уяву міхалоўскага падаткавага раю, аднак, зацьміць меркаванне некаторых экспертаў падаткавага заканадаўства, якія ўпэўнены, што ў адпаведнасці з абавязваючым заканадаўствам падатку на маёмасць гмінныя рады не могуць адмяніць. Пастанову Гміннай рады можа абскардзіць Рэгіянальная разліковая палата, а канчатковае рашэнне можа быць прынята адміністрацыйным судом. Замест каментара — напамін: 2014 год з'яўляецца годам выбараў у мясцовыя органы ўлады.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Дзеля гаспадарчага супрацоўніцтва з Беларуссю



На гаспадарчы форум прыбыло каля сарака асоб з Беларусі (на першым плане ўдзельнікі са Свіслацкага раёна)



Дэлегацыя Пружанскага раёна

**У рамках Аб'яднання самаўрадаў Еўрарэгіёна «Белавежская пушча» паміж самаўрадамі Гайнаўскага павета ды Пружанскага, Камянецкага і Свіслацкага раёнаў вядзецца супрацоўніцтва ў галіне культуры, разгортваецца спартыўнае супрацоўніцтва. Самаўрады па абодвух баках мяжы разлічваюць таксама на трансгранічнае гаспадарчае і турыстычнае супрацоўнітва паміж прадпрыемствамі сваіх раёнаў, чакаюць увядзення малога памежнага бязвізавага руху паміж Польшчай і Беларуссю. З мэтай наладжання гаспадарчага супрацоўніцтва паміж Гайнаўскім паветам ды Пружанскім, Камянецкім і Свіслацкім раёнамі з 12 па 13 лістапада ў Гайнаўцы адбыўся Еўрарэгіянальны польска-беларускі гаспадарчы форум «Гайнаўка-2013».**

У Гайнаўскім доме культуры сабраліся самаўрадаўцы з абодвух бакоў мяжы і прадпрымальнікі. Ініцыятарамі і арганізатарамі форуму былі бурмістр Гайнаўкі Ежы Сірак і дырэктар бюро Аб'яднання самаўрадаў Еўрарэгіёна «Белавежская пушча» Ян Хомчук, а фінансавую падтрымку ў галоўным аказала Міністэрства замежных спраў РП.

— Супрацоўніцтва ў галіне культуры і спорту ўдала разгортваецца ў рамках нашага еўрарэгіёна. Але хочам таксама зрабіць стаўку на гаспадарчае супрацоўніцтва і таму сарганізавалі мы гаспадарчы форум, — заявіў гайнаўскі бурмістр Ежы Сірак.

— Культурнае супрацоўніцтва ў рамках Еўрарэгіёна «Белавежская пушча» было вельмі добрым, але нават і зараз, нягледзячы на складанасці з атрыманнем віз, яно працягваецца паспяхова. Мы сёння зрабілі першы крок у напрамку гаспадарчага супрацоўніцтва. На сённяшні форум прыбыло звыш ста дзесяці асоб, у тым ліку каля сарака чалавек з Рэспублікі Беларусь. Частку ўдзельнікаў састаўляюць прадпрымальнікі з абодвух бакоў мяжы, якія маюць магчымасць знаёміцца з сабой і размаўляць. Плён нашага форуму можа быць толькі ў будучыні. Каб інвеставаць у Беларусі, неабходнае таксама супрацоўніцтва з тамашняй адміністрацыяй, якой прадстаўнікі прысутныя сёння з намі, — сказаў дырэктар бюро Еўрарэгіёна «Белавежская пушча» Ян Хомчук.

Перад удзельнікамі форуму выступілі, між іншым, генеральныя дырэктары Гродзенскага і Брэсцкага аддзяленняў Беларускай гандлёва-прамысловай палаты — Мячыслаў Касцюк і Валерый Лабун, якія заахвочвалі да гаспадарчага супрацоўніцтва з прадпрыемствамі ў Беларусі. Юзэф Лахоўскі, старшыня Польска-Беларускай гандлёва-прамысловай палаты ў Варшаве падвёў вынікі супрацоўніцтва паміж прадпрыемствамі з Польшчы і Беларусі.

— Гаспадарчы абмен паміж Польшчай і Беларуссю хутка павялічваецца і склаў 3 мільярды долараў у год. У нас дадатні баланс абмену з нашым суседам. З Беларусі мы ў галоўным імпартуем сыравіну, перадусім паліва і мінеральныя ўгнаенні, а экспартуем туды харчаванне і паўфабрыкаты, — сказаў старшыня палаты Юзэф Лахоўскі. Назваў ён таксама перашкоды, якія тармозяць гаспадарчае супрацоўніцтва, між іншым невялікую магутнасць польска-беларускіх пагранпераходаў, дзе ў вялікіх чэргах прастойваюць аўтафуры. Юзэф Лахоўскі запрапанаваў сарганізаваць круглы стол паміж польскім і беларускім бакамі ў справе разбудовы пагранпераходаў. Умовай павелічэння гаспадарчага супрацоўніцтва паміж прыгранічнымі раёнамі палічыў ён увядзенне бязвізавага малога прыгранічнага руху і завязванне непасрэдных кантактаў паміж прадпрымальнікамі ў час такіх сустрэч як гайнаўскі форум.

На форуме з дакладамі выступілі прадстаўнікі прадпрымальнікаў, самаўрадаў, адміністрацыі і іншых устаноў з абодвух бакоў мяжы. Дакладчыкі знаёмілі сабраных з умовамі магчымага будучага супрацоўніцтва.

Прыгранічнае распалажэнне Гайнаўскага павета і тры пагранпераходы (дарожны Полаўцы — Пяшчатка, чыгуначны Семяноўка — Свіслач, веласіпедна-пешаходны Белавежа — Пераров) тэарэтычна даюць аграмадныя магчымасці для гаспадарчага і турыстычнага развіцця прыпушчанскага рэгіёна з цэнтрам у Гайнаўцы. Турыстычным цэнтрам Гайнаўшчыны надалей застаецца Белавежа. Наведваюць яе ў галоўным турысты з розных рэгіёнаў Польшчы і заходніх краін. Пакуль няма прыгранічнага бязвізавага руху і пагранпераход у Белавежы пустуе. Нават у цяплейшыя восеньскія месяцы толькі адзінкі рашаліся перасякаць пешшу або на веласіпедах дзяржаўную мяжу ў гэтым месцы. Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Аляксандр Берабеня заахвочваў прадпрымальнікаў з абодвух бакоў мяжы да гаспадарчага супрацоўніцтва, але ў размове з журналістамі пазбягаў адказу на пытанне як улады Рэспублікі Беларусь ставяцца да патрэбы хуткага ўвядзення малога прыгранічнага бязвізавага руху паміж Польшчай і Беларуссю.

— Сённяшні гаспадарчы форум гэта спроба прабіць галавой сцяну, але ад нечага трэба пачынаць. Хочам паказаць, што ёсць патрэба гаспадарчага супрацоўніцтва паміж прыгранічнымі рэгіёнамі, бо ад гэтага будуць даходы для нашага насельніцтва. З Беларусі прадбачваецца імпартаваць драўніну ў фабрыку міжнароднай групы «Ікея» ў Кошках Арлянскай гміны і магчыма, што будзе гэта адбывацца праз распаложаны ў нашай гміне тэрмінал. У нас ёсць таксама ўчасткі для інвеставання, а супрацоўніцтва з Беларуссю можа зрабіць нашу гміну больш цікавай, — сказаў войт Нараўчанскай гміны Мікола Павільч.

Зараз вядзецца разбудова міжнароднага чыгуначнага пагранперахода Семяноўка — Свіслач. На ім будуць размешчаны фітасанітарныя службы, якія будуць кантраляваць транспарт раслліннай прадукцыі. Гэта таксама пасадзейнічае павелічэнню тавараабмену паміж Польшчай і Беларуссю. Староста Гайнаўскага павета Уладзімір Пятрочук прапанаваў запуск і дзейнасць прыгранічнай чыгуначнай камунікацыі з Брэста, праз Высока-Літоўск і Чаромху, у Беласток і назад. З абодвух бакоў мяжы, перадусім за еўрасаюзныя сродкі, разбудоўваецца дарожны пагранпераход Полаўцы — Пяшчатка, які мае атрымаць статус міжнароднага. Прадбачваецца пусціць праз гэты пагранпераход пасажырскі транспарт і тудою перавозіць лягчэйшы груз, бо да руху велізарных аўтафур яшчэ непрыстасаваныя дарогі па абодвух баках мяжы. Хутчэй за ўсё гэты пагранпераход будзе найбольш зручным для дробных мясцовых прадпрымальнікаў, на якіх перадусім робяць стаўку арганізатары гайнаўскага гаспадарчага форуму.

— Магчыма, што пасля прыватных размоў паміж прадпрымальнікамі завяжуцца кантакты і будзе наладжана гаспадарчае супрацоўніцтва, — сказаў Дзяніс Шпак, намеснік старшыні Камянецкага райвыканкама. — Мы рэалізуем супольна з прадпрыемствамі Гайнаўскага павета інвестыцыі з выкарыстаннем еўрасаюзных сродкаў і добра было б праводзіць такія інвестыцыі і ў будучыні.

Рэалізуецца цяпер прыгранічнае супрацоўніцтва паміж Гайнаўшчынай і Камянецкім раёнам у галіне водна-сцёкавай гаспадаркі, у рамках якой, між іншым, перабудоўваецца і мадэрнізуецца ачышчальня сцёкаў у Гайнаўцы. У рамках трансгранічнага супрацоўніцтва са Свіслацкім раёнам быў раней адрамантаваны будынак былой Падставовай школы ў Семяноўцы і прыстасаваны пад дзейнасць Зялёнай школы. Зараз пачалася рэалізацыя праграмы куплі абсталяваных новай тэхнікай 11 пажарных машын для каманд пажарнай аховы па абодвух баках мяжы, аб чым паінфармаваў дырэктар бюро Еўрарэгіёна «Белавежская пушча» Ян Хомчук.

— У нашым раёне ёсць пустуючыя будынкі былых школ і іншых устаноў, якія могуць быць выкарыстаны інвестарамі з Польшчы хаця б на будову гатэляў і развіццё турызму, — сказала Ганна Чыжыкава — намеснік старшыні Свіслацкага райвыканкама.

Спатканне ў ГДК закончылася канцэртам калектыву народнага танца «Перапёлка». Пасля ўдзельнікі форуму размаўлялі ў тэматычных групах. На наступны дзень госці з Беларусі наведалі гайнаўскія прадпрыемствы, дзе знаёміліся з новымі тэхналогіямі. Размаўлялі яны таксама аб магчымым супрацоўніцтве ў будучыні.

Гайнаўскі форум паказаў, што абодва бакі зацікаўлены ў гаспадарчым супрацоўніцтве. Аднак прыватных прадпрыемстваў у прыгранічных раёнах Беларусі мала і таму ўдзельнікі з-за мяжы разлічвалі перадусім на інвестыцыі польскіх прадпрымальнікаў на тэрыторыі Беларусі або на гандлёвае супрацоўніцтва. Польскія прадпрымальнікі мяркуюць, што вынікаў гаспадарчага прыгранічнага супрацоўніцтва трэба будзе яшчэ пачакаць, можа і некалькі гадоў.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Зазеляняюць вясною

Сёлета ў цэнтры Беластока пасадзілі 50 новых дрэўцаў акацыёвай рабіны і больш тысячы дэкаратыўных кустарнікаў японскай тавулы, турэцкай ляшчыны (арэшніку) і барбарысу. Некаторыя з вышэйзгаданых раслін якраз найлепш прыстасаваныя да гарадскіх умоў. Найбольш іх пасадзілі, між іншым, на вуліцах Бялуўны, Новы свет і Вашынгтона. Ды яшчэ на скверы пры вуліцы Святога Мікалая, тут вясной зазеляняюць маладзенькія кустарнікі тавулы, іргі, чмяліны і іншых раслін.

Набліжаецца зіма і з думкай пра птушак у гарадскіх парках павесілі для іх кармушкі. Шмат іх на дрэвах у парку Плянты і на алеі Закаханых ды перш-наперш пры сцяжынках, па якіх гараджане найчасцей ходзяць на прагулку. Кармушкі размешчаны таксама ў Цэнтральным парку, на скверы Тамары Саланевіч, на пляцоўцы каля плавальнага басейна па вуліцы Влукеннічай, на скверы па вуліцы Міцкевіча і ў парку Браніцкіх. Жыхары горада любяць птушак і ахвотна іх падкормліваюць.

Зараз у кармушкі можна сыпаць зерне аўса і пшаніцы, кашу, сланечнік, семечкі льну, кунжуту і гарбуза. Можа быць таксама кусочак сырой нясоленай саланіны са скуркай, прычэпленай да кармушкі. Не кладзем, аднак, хлеба і іншых хлебабулачных вырабаў. Мокры хлеб хутка цвіце і птушкі яго не з'ядуць.

... Калі ўжо надыдзе цёплая вясна, тады хутка зазеляняюць новапасаджаныя дрэвы і птушкі аддзячаць гараджанам за клопат пра іх зімою сваімі вясёлымі прыгожымі спевамі. Варта паклапаціцца пра нашых крылатых сяброў.

**(яц)**



# Маладыя зберагальнікі роднага слова

**У Публічнай бібліятэцы ў Крынках 14 лістапада г.г. адбылася цікавая падзея. Яе галоўнымі героямі сталі крынскія гімназісты — Оля Кішкель, Аня Крыштаповіч, Матэвуш Анікей і Вікторыя Станкевіч. Моладзь упершыню спрабавала сваіх сіл у фільмавай анімацыі. Для жыхароў роднага мястэчка сарганізавалі яны паказ падрыхтаванага імі матэрыялу.**



„Вялікая чацвёрка”



З мультымедыйным дакладам выступіў Артур Гавел

Маладых творцаў да працы заахвоціла дырэктар крынскай бібліятэкі Люцына Юркевіч. Ужо год у рамках штотыднёвых бібліятэчных сустрэч займаюцца яны рознымі формамі зберагання так званай мясцовай культуры.

— Разам са спадарыняй Люцынай складаем слоўнік нашай гаворкі, — прызнаецца Матэвуш Анікей. — Патрэбных слоў мы шукалі ў сваіх дзядоў, бацькоў, а таксама ў прадстаўнікоў маладшага пакалення. Гэта няпростая справа стварыць такі слоўнік, таму што гаворка наша адмірае. У міжчасе паявілася ідэя зрабіць фільм, таму на пару месяцаў адарваліся мы ад слоўніка і заняліся анімацыяй. І слоўнік, і фільм дапамаглі мне ў засваенні мясцовай гаворкі, але, мабыць, лягчэй яе вывучыць, чым зрабіць добрую анімацыю.

— Мы тут добра праводзім свой час, — далучаецца да размовы Аня Крыштаповіч, — а пры нагодзе робім нешта карыснае. Нас толькі чатырох, але нам так добра. Наблізіліся мы да сябе, пасябравалі, стварылі асаблівую атмасферу.

Як пачалася творчая праца распавяла гаспадыня вечарыны, дырэктар Люцына Юркевіч.

— З „вялікай чацвёркай” я знаёмая ад пачатку іх школьнай кар'еры. Мы пачалі сустракацца тут на звычайныя пасядзелкі, якія потым ператварыліся ў больш канкрэтны праект. Не шукаючы далёка, забраліся мы за раскрыццё гісторыі крынскага двара сям'і дэ Вірыёнаў. Потым я запрапанавала ім знаёмства з нашай гаворкай. Падрыхтаваўшы спісак архаічных слоў, раскрыць іх значэнне я паслала юных даследчыкаў да дзядоў, бацькоў, а таксама да аднагодкаў. Аказалася, што толькі дзяды былі ў змозе адказаць на іх пытанні. У час нашых сустрэч мы закранулі таксама тэму святочных традыцый. Па падказкі зноў трэба было звяртацца да членаў уласных сем'яў. Вельмі яны ў гэта ўцягнуліся. Для падтрымкі працэсу патрэбны былі новыя ідэі. Гартаючы інтэрнэт-сайты, я папала на конкурс для бібліятэк пад загалоўкам „Родны дабаў да любімых”, арганізаваны Цэнтрам грамадзянскай адукацыі ў Варшаве. Нам было ўжо з чым стартаваць. Паслала я ім справаздачу з нашай дзейнасці. У адказ прыйшло запытанне чаму ў нас толькі чацвёра ўдзельнікаў. Справа тут не надта складаная. Для мяне за колькасць важнейшая якасць. Інакш весці працу з калектывам незацікаўленых, а інакш са жменькай фанатаў. Наш конкурсны праект гэта сяміхвілінная анімацыя на мясцовай гаворцы пад загалоўкам „Каралева Бона ў Крынках”. Яго падмуркам стала легенда пра паўстанне крынскай царквы, запісаная айцом Рыгорам Сасной. Пры нагодзе ўдалося „прадаць” некалькі асабіста сабраных, старых кулінарных рэцэптаў і жніўны абрад. Гукавую дарожку для фільма выканаў радзімы дуэт „Зараніца”. Чаму акцэнт пайшоў менавіта на гаворку? Жывем у спецыфічным асяроддзі, якое кепска ўспрымае ўласную тоеснасць. Гэта ж наша культурная спадчына, якую мы самі павінны зберагаць, а не дазваляць чужым гэтым займацца. Ці хочам, каб Варшава вучыла нас нашай мове і традыцыям? Рашуча, не. Я вельмі задаволена, што знайшліся і між намі грамадскія дзеячы, якія ўсё-такі не пабаяліся. Тут сапраўды патрэбная вялікая адвага. Цешыць, што ў нашым асяроддзі вырастае новае пакаленне перамальнікаў гэтай справы і вялікае ім за гэта дзякуй.



Гаспадыня вечара Люцына Юркевіч

Нашу працу заўважылі. Крынскі бібліятэчны праект далучылі да васьмі самых лепшых у Польшчы. У якасці ўзнагароды мы пабывалі ў варшаўскай медыятэцы. Там пабачылі як працуюць прафесіяналы ў галіне анімацыі. Гэта была вялікая асалода за нашую цяжкую працу. Пра нас напісалі таксама на блогу Цэнтра грамадзянскай адукацыі.

Змест пахвальнага пісьма з Варшавы быў зачытаны гімназістам Матэвушам Анікеем. Словы пашаны ў адрас крынскіх гімназістаў скіраваў таксама госць мерапрыемства, дырэктар Беластоцкага музея вёскі Артур Гавел. Карыстаючыся нагодай, ён выступіў з мультымедыйным дакладам на тэму абрадаў на Падляшшы. Новае выданне яго фотаальбома „Rok obrzędowy na Podlasiu” разышлося ў час вечарыны як агульнавядомыя цёплыя булачкі. Сустрэчу завяршыла ажыўленая дыскусія на тэму колішняга жыцця ў падкрынскай вёсцы.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# Восень

Падаўся я на Засакольшчыну, злез з аўтобуса на прыпынку Паўловічы, што на расхадных дарогах каля былога панскага двара. Калісь тое месца, месца панскага маёнтка, бурліла жыццём. Ды і калі паноў не стала, пры камуне, таксама аставалася яно грамадскім цэнтрам. У панскім палацы яшчэ дзесятак гадоў таму працавала школа... Зараз тое месца пустуе, цішыня і сум восені пануе і ў панскім палацы, што быў пабудаваны ў сівую нам даўніну, і ў больш сучасных будынках крамы, паветкі аўтобуснага прыпынка ды пункту прыёму малака.

*Слоўнік Каралеўства Польскага*, што быў пісаны да Першай сусветнай вайны: „Pawłowicze, dobra, pow. sokólski, własność Baehra. Dwór przed 300 laty wystawił Paweł Wołłowicz”. А ў іншым месцы: „Pawłowicze, dobra, pow. sokólski, gm. Makowlany, 9 wiorst od Sokółki, Baboszynych z folwarkiem Godebsk 443 dziesięciny”. Гэтыя дзве даведкі, хаця вельмі рознага зместу, правільныя. Бо ў канцы XIX стагоддзя, калі пісалася першая, уласнікам маёнтка быў Атон Бэр, а ў пачатку XX стагоддзя, калі пісалася другая, Павел Бабошын.

Зараз там цішыня і падаецца, што ніякага пана ці пані у Паўловічах ужо няма, але цалкам магчыма, што звыш чатырохсотгадовы палац прывабіць да сябе нейкага любіцеля старой даўніны, ахапкі якой захаваны не толькі ў архітэктуры, не толькі ў дакументах, але і, магчыма, у нейкіх займальных легендах. Захавалася, вось, легенда, што дачка суровага ўласніка маёнтка закахалася ў дворскага конюха і ейны бацька, каб не дапусціць да кампраметуючага яго знаць мезальянсу, загадаў замураваць абое ў падвале. Інакш маецца справа з творамі сацыялістычнага будаўніцтва: каркаснай крамай і мураваным, але цесным пунктам прыёму малака, за якімі, верагодна, прыйдзецца назіраць як яны змагаюцца з выклікамі часу ды прыродных і, магчыма, антрапагенных стыхій.

Каля кіламетра ад Паўловіч, мясцовасці названай у гонар будаўніка тамашняга палаца, распаложана вёска Літвінкі. У *Слоўніку* выступае гэтая вёска пад назвай Літвінка, да таго ж дадае ён і інфармацыю, што быў там і прысёлак з млыном. Зараз там пануе восень, не толькі ў календарным сэнсе. Незаўважны там нейкі істотны рух, невялікая вёска патанае ў цішыні і асенняй шэрасці; навесну, верагодна, патанала б яна ў зелені. Толькі на адзін панадворак наезджаны нясмелыя сляды машын, іншыя панадворкі быццам бясследныя, але калі засігналіла мабільная крама, са, здавалася б, апусцелых хат вельмі нясмела сталі паказвацца захаваныя яшчэ іх насельнікі. У цэнтры вёскі дзве каплічкі, адна ўжо пахіленая часам, на другой букет штучных кветак, а побач змагаецца з уласным цяжарам драўляная лаўка. Вялікая мураванка пасярэдзіне вёскі здаецца быць намнога больш пустой, чым навакольныя драўляныя хаты...

Пра чарговую вёску, Беняшы, *Слоўнік* згадвае даволі лаканічна — што займала яна 175 дзесяцін зямлі...

У Снічанах быў я пару гадоў таму. Тады яшчэ працавала там прыватная крама ў падвале адной з мураванак. Зараз сляды да тае крамы зараслі, хаця шыльда захоўваецца. Вялікая мураванка пасярэдзіне вёскі не паказвае прысутнасці ў ёй чалавечых душ. Адно можа толькі павукі маюць там прастору для росквіту іхняга мастацтва, дзе ніякія двухногія вандалы з венікам у руцэ не знішчаюць далікатных інсталяцый — твораў іхніх мастацкіх талентаў. *Слоўнік* пра вёску гэтую падаваў даволі фармальную інфармацыю — што яна ў дзесяці кіламетрах ад Саколкі.

Далей вёска Звяржаны. А пакуль да яе — побач дарогі зарослы лесам цэментны крыж, пастаўлены ў 1939 годзе з эпітафіяй „Dobry Jezu a nasz Panie daj im wieczne spoczywanie”; хто там меў спачываць — невядома. Крыху далей, у бок вёскі, каля ста метраў ад дарогі даўні склеп, а перад ім жалезны крыж пасярэдзіне падмурка, на якім, верагодна, стаяла калісь хата. У вёсцы ўдалося мне сустрэць на вуліцы траіх мужчын, ад якіх даведаўся я, што жыў там калісь багаты гаспадар. Пра крыж з 1939 года нічога яны не ведалі. А назва вёскі, сказалі яны мне, выводзіцца ад колішняга яе ўладальніка, што называўся Звержан. *Слоўнік* падаваў, што ў вёсцы было 475 дзесяцін мужыцкай зямлі, у тым ліку 153 сенажацей і паш ды 29 дзесяцін няўгоддзяў. А векам даўнейшыя прускія дакументы згадвалі і пра маёнтак у Звяржанах...

Дарэчы, *Слоўнік* вельмі ашчадны ў апісанні вёсак, што раскінуліся за Саколкай. Пра Стараўляны і Паплаўцы толькі згадвае, што яны за Саколкай. Крыху пра Задвараны, што там 192 дзесяціны мужыцкай зямлі, у тым ліку 26 сенажацей і паш ды 14 няўгоддзяў. Гэта ж усе мужыцкія вёскі, а каго ж будуць цікавіць мужыцкія справы?

Апошняя вёска, Задвараны, не надта ўжо такая і мужыцкая. Ад яе да Саколкі — што рукою падаць. І яна ўжо па сутнасці стала адлеглым Саколкі прыгарадам; яе жыхары не перабраліся ў Саколку, толькі перабудавалі свае хаты, пазбаўляючы іх ранейшага вясковага выгляду.

У наваколлі наведаных мною вёсак шмат маладога лесу. А ў тым лесе шмат усялякага непатрэбнага людзям ламачча. У яго ліку і шмат бутэлек — шкляных і пластмасавых. І пустых, але не ўсіх. Ёсць жа ў нашым народзе і творчы дух, які вядзе іх да, напрыклад, напаўнення тых бутэлек нейкім змесцівам і карпатлівага размяшчэння іх у высокіх разгалінаваннях; і да задавальнення „творчымі” поспехамі. Такі абразок відаць на беластоцка-гродзенскай шашы між Задваранамі і Саколкай. А побач і каркас дрэва з павешаным на ім усялякім ламаччам, прыдуманы нейкім мастаком з вышынь лясной адміністрацыі; стаяць такія „жамчужыны” ў шмат якіх лясных пленэрах. Цікава, як паставіліся б людзі да такіх інсталяцый, калі б іх памясціць у людных гарадскіх цэнтрах...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Стадола ў Літвінках



Крыж каля Звяржан



Крыж побач беластоцка-гродзенскай шашы

## Носьбіты культуры

### Фільм у падарунак

Інфармуем, што да гэтага нумара „Нівы” шматгадовыя падпісчыкі нашага тыднёвіка атрымаюць дыск DVD з фільмамі з цыкла **„Носьбіты культуры”**, рэалізаванага Аб'яднаннем фільмавай адукацыі пры падтрымцы Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі. У першай частцы цыкла ўбачыце два дакументальныя фільмы пра паэта Віктара Шведа і мовазнаўца Міхала Кандрацюка. Дыскі з фільмам атрымаеце традыцыйнай поштай.

## Крыўдны закон

У кастрычніку 2002 года на Фондавую біржу ўвайшоў «Fundusz Własności Pracowniczej PKP Specjalistyczny Fundusz Inwestycyjny Otwarty» (SFIO). Кожнаму чыгуначніку былі назначаны адзінкі ўдзелу — акцыі, у залежнасці ад стажу працы. Працаўнік, які перапрацаваў менш чым 15 год, атрымліваў шэсць адзінак, з большым стажам — чатырнаццаць. Ацэнка пачыналася з 3 кастрычніка 2002 г. Пачатковая вартасць адзінкі вызначалася на 2,24 зл. З таго часу мінула адзінаццаць год. Вартасць адзінкі расла з году ў год. Зараз, напрыклад, на дзень18 лістапада вартасць адзінкі складала 84,44 зл. Шматлікія чыгуначнікі заўчасна прадалі банку свае адзінкі. Баяліся, каб акцыі не прапалі. Большасць аднак карыстаецца надалей працаўнічым надзелам, затым павялічваецца іхні капітал. Аднак многія акцыянеры памерлі. Паводле правілаў, належнасць павінна быць выплачана сямейнікам (мужу, дзецям), але закон СФІО таго не прадбачвае. Значыцца, фонд багацее, а сямейнікі трацяць. Крыўдны гэта закон. У заходніх краінах маёмасць памерлага ўладальніка пераносіцца на сямейнікаў. Калі няма блізкіх, належнасць выплачваецца далейшым родным. Так быць павінна. Ці дачакаемся калісьці ў нашай праваой дэмакратычнай дзяржаве такіх законаў?..

**Уладзімір СІДАРУК**

## Давайце цешыцца ўсім!

Жыццё складаецца з многіх хвілін. Здавалася б, што яшчэ ўчора мы бегалі па двары, смяяліся, цешыліся ўсім. Час ляціць вельмі хутка. Кожны год мы вучымся, што мы павінны быць больш адказнымі і самастойнымі. З'яўляецца такі момант у жыцці кожнага чалавека, калі мы думаем, што хочам у жыцці рабіць, да чаго мы імкнемся. Тады мы разумеем, што наша дзяцінства канчаецца. Дзеці мараць стаць дарослымі, а потым сумуюць па часе, калі не было чым турбавацца. У жыцці ёсць добрыя і кепскія хвіліны. Усё, што адбываецца на працягу многіх гадоў, фарміруе наш характар. Людзі і падзеі, якія напаўняюць наша жыццё, маюць вялікі ўплыў на тое кім мы будзем. Перастаць быць самім сабой гэта самае горшае, што можа нам здарыцца. Калі занадта хутка становімся дарослымі, мы можам пагубіцца, прапусціць важны перыяд жыцця. Не варта спяшацца, проста давайце будзем жыць момантамі і цешыцца тым, што ў нас ёсць, таму што толькі гэта сапраўды мае значэнне ў жыцці.

**Уршуля БЕРАЗАВЕЦ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Розная цікавасць да „простай” мовы!

А ці маеце першы нумар „Нівы”? — спытаў нас гімназіст з Міхалова.

Рады пытанню, мы запрэзентавалі першы нумар ад 4 сакавіка 1956 года. І тут узнікла цікавая справа. Аказалася, што былі аж тры „пробныя” першыя нумары. Ад пачатку наша газета карысталася зацікаўленнем чытачоў ад Міхалова. Адтуль былі стваральнікі газеты. Сустрэча з гімназістамі з Міхалова праходзіла напярэдадні важнай падзеі. Вось 25 лістапада г.г. Рада горада Беластока аднагалосна прыняла пастанову, што ў сталіцы Падляшша будуць вуліцы імя ніўскага журналіста Міколы Гайдука і архіепіскапа Мірана.

Менавіта сутрэчу з міхалоўскімі гімназістамі мы пачалі з прэзентацыі асобы Міколы Гайдука. Ніўскі журналіст як ніхто іншы апісаў іх аколіцу і да гэтага невыпадкова. Сам ён нарадзіўся ў вёсцы Кабылянка, закончыў пачатковую і сярэднюю школы ў Міхалове. Пасля вучыўся ў Мінску. Калі вярнуўся з багажам ведаў, шчыра працаваў у карысць беларускага асяроддзя. Разам з жонкай Лідзіяй ён напісаў падручнікі па беларускай мове. Мікола Гайдук быў вядомы як літаратар. У яго творах знойдзем свет з часоў дзяцінства нашых дзядоў або і прадзедаў. Легенды, якія запісаў на Беласточчыне, сталі агульнанароднымі — іх часта друкуем у „Зорцы”. Праз усю творчасць аўтара з Кабылянкі прабіваецца любоў да роднага кутка. Яго прыгожая, сакавітая літаратурная мова ўзнікла на аснове дыялекту яго роднай вёскі.





Пра ўсё гэта мы размаўлялі з міхалоўскімі гімназістамі, каб усвядоміць ім ролю іх дыялекту, пра які звычайныя людзі кажуць „простая мова”.

На пытанне, ці нехта яшчэ размаўляе так з бацькамі, адазвалася толькі адна асоба з Навасадаў.

Нашыя сябры жыва адрэагавалі на лозунг беларускага блога з Шымак.

Такая гульня і камунікацыя можа дапамагчы ў вывучэнні мовы. Хоць у апошнім прыхаваная небяспека. Для многіх закамплексаваных іх аднагодкаў „простая мова” будзе нагодай для смеху і здзеку. Гэта відаць па каментарах у камунікатарах людзей, якія не спалучаюць сваёй гутаркі з літаратурным варыянтам.

Вядома, той, хто вывучае мову па сваім жаданні ў школе, зусім інакш глядзіць на справу.

Цягам мінулага месяца Міхалова ўразіла нас масавым удзельніцтвам у літаратурным конкурсе беларускай паэзіі і прозы. Гэта адважны і прыгожы крок, а таксама паклон у бок такіх людзей як Мікола Гайдук. Нашы сябры паабяцалі, што вясной пойдуць на экскурсію ў Кабылянку, каб адшукаць месцы свайго славутага земляка. Яны паабяцалі таксама даглядаць магілку славутай кінарэжысёркі Тамары Саланевіч у іх мястэчку. Каб мацней прыпячатаць нашае сяброўства, паэтка Міра Лукша прачытала ім „Кабылу з Кабылянкі”.

У гэты дзень нашы сябры завіталі яшчэ ў Радыё Рацыя, дзе на свае вочы пабачылі працу беларускіх радыёжурналістаў.

**ЗОРКА**

Міра ЛУКША

## Падарунак Маўрыку

**Памыў лапкі, спінку, вушкі,
Хвосцік вылізаў і брушка,
Сеў на ўсходкі перад хатай
І чакае Маўрык свята.**

**Вось на свята Мікалая
Падарункаў ён чакае:
Прывязе пан Янка мячык,
Што вышэй за плоцік скача.**

**І званочак мячык мае:
Дзынькае, гусей пужае.
Бо гусак з сіпучым носам
Шчыпле моцна ў пяткі босы.**

**Скуль на зіму кату тапкі,
Каб не мёрз ён у свае лапкі?
Можа, Янка купіць боты,
Каб не мок Маўрык у слоты?**

**Шапку з дзіркамі на вушкі,
Бо ж ахоўваць трэба слушкі,
І кафтанчык з цёплай воўны...
Вось святочны пакет поўны!**

**Прывязе ж яшчэ пан Ян
Хрупак-жуек кілаграм.
Малачко ж дастане Маўрык
Ад кароўкі мілай Лаўры.**



**Увага, конкурс!!! Загадкі з роднай хаткі (№ 48)**

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 8 снежня г.г. , найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

*1.
Што за такія сёстры:
Першая — назбірае вады,
Другая — арэ і сее.
Трэцяя — росціць рупліва плады,
Чацвёртая — есці ўмее.*

*2.
Што за белая мушка
Апусцілася на вушка,
Ледзь чутно паказытала,
Штосьці вушку пашаптала,
І праз міг яе не стала.*
(У. Мураўейка)

Адказ на загадкі № 46-13: кот, гусь, певень. Узнагароду, майку з лагатыпам Радыё Рацыя, выйграла Мальвіна Маркевіч з Бельска-Падляшскага.

**ВІНШУЕМ!**

# Належна ацаніць сваё

Цягам апошніх месяцаў дзверы ў рэдакцыю не закрываюцца. Нас наведваюць вучні, якія вывучаюць беларускую мову. Часта візіт у рэдакцыю складае адзін з пунктаў турыстычнай праграмы. Школьнікі наведваюць музеі. Вось 13 лістапада наведалі нас ліцэісты з Бельска-Падляшскага. Жывая сустрэча з журналістамі і месцам для многіх адкрыла вочы. Аказваецца, многія журналісты самі былі калісь вучнямі белліцэяў. Пасля вучобы ў Бельску ці Гайнаўцы яны не парвалі сувязі з беларускім словам, наадварот, яны пачалі, часта на грамадскіх пачатках, працаваць у карысць захавання і развіцця мовы. У час сустрэч мы звярталі ўвагу на пераемнасць пакаленняў. Сучасная моладзь, раней ці пазней, будзе працягваць беларускую справу. Гэты выклік, дзякуючы камунікатарам, можна здзяйсняць у кожным кутку свету, у вялікім горадзе і малой вёсачцы. Важна, каб належным чынам ацаніць родную мову і культуру, — гэта сапраўдны стымул для развіцця і здзяйснення мараў.

Пасля сустрэчы ў „Ніве” нашыя ліцэісты наведалі яшчэ Радыё Рацыя.

ЗОРКА


Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Ліцэісты з Бельска-Падляшскага

# Як стаць царом або князем?

*(кітайская легенда)*

Старажытныя кітайцы верылі, што шчасце і слава чалавека залежаць ад яго самога. Каб метад спрацаваў, трэба пры жыцці шанаваць бацькоў і пахаваць іх у добрым месцы. Добрае месца для вечнага спачыну мела сваю назву — фэн-шуй (feng shui). Дапамогу і лёс сям'і мелі зладзіць духі памерлых продкаў, задаволеных сваім фэн-шуй.

Паслухайце тады адну гісторыю, што здарылася ў краіне за вялікай сцяной.

Сун Зонг, земляроб, які вырошчваў кавуны, дбаў пра сваіх старых бацькоў. Ён, як усе яго аднавяскоўцы, марыў, каб знайсці для іх найлепшае фэн-шуй і пахаваць згодна з народнымі абрадамі. Думкі пра дастойныя хаўтуры займалі яму галаву ад вечара да рання.

Аднойчы праз яго поле вандравалі трое сівабародых дзядоў. Ім хацелася піць.

Сун прывітаўся з вандроўцамі і пачаставаў іх кавуном. Старыя з'елі са смакам, співаючы да апошняй кропелькі сок з сакавітай гародніны. Бачачы ненасытнасць, малады земляроб пабег па другі кавун. Ён прынёс яшчэ большы кавун і пасля, калі дзяды прапанавалі заплату, ён не схацеў слухаць пра грошы.

— Вы ж у дарозе, трэба дапамагаць людзям у патрэбе!

Старыя, уражаныя шчодрасцю чалавека, рашылі яго абдараваць. Адзін з іх сказаў:

— Я пакажу табе, дзе найлепшае фэн-шуй. Калі памруць твае старэнькія бацькі, пахавай іх у гэтым месцы. Калі так зробіш, у вашай сям'і калісьці народзіцца кесар Кітая.

Сун уважна выслухаў старых, падняўся на ўзгорак, які паказалі яму госці. На жаль, ён не пачуў, калі адзін з іх дабавіў: „Толькі не спыняйся заранёў. Пачакай, аж мы табе скажам, дзе трэба спыніцца...”.

Сун зрабіў усё як яму параілі. Аднак, недзе пасля ста крокаў, ён павярнуўся назад, каб паглядзець, чым займаюцца дзяды на ягоным полі. Адзін з іх уздыхнуў:

— За хутка ты спыніўся! Стой у гэтым месцы. Гэта таксама не дрэннае месца. Толькі замест кесара ў вашай сям'і народзіцца князь, які будзе кіраваць поўднем Кітая.

Калі Сун пазначыў месца для пахавання бацькоў, ён глянуў на поле і пабачыў як трох сівабародых дзядоў перамяніліся ў белых жураўлёў і адляцелі...

Сун у найбольшай пашане дагадаваў сваіх старэнькіх бацькоў і пахаваў там, дзе раілі „дзяды”.

Пасля ажаніўся з дзяўчынай са сваёй вёскі. А калі нарадзіўся ў іх сын, яго ахрысцілі Сун Іан, які пасля стаў князем каралеўства Ву.

ЗОРКА


У Арэшкаве

# Вершы Віктара Шведа

## Кантэйнер для смецця

Хлопца пытаюць
Цікаўныя дзеці:
— Чаму ты качаеш
Кантэйнер для смецця?

— Хачу прыемнасць
Зрабіць Ксаверу.
— А дзе Ксавэры?
— У кантэйнеры.

## Гадзіннік на галіне

У лес пайшла з матуляй
Маленькая Ганула.
Неўзабаве пачулі
Кукаванне зязюлі.

— Ты аглядайся, мама
Што дзеецца над намі
Тут дзесьці на галіне
Вісіць наш гадзіннік.

# Польска-беларуская крыжаванка № 48

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 44:**

Пуп, гоні, пявун, рысь, лось, гадавіна. Суп, пяро, выспа, гусь, конь, літарка. Узнагароды, карэктары, выйгралі **Рафал Новік, Альжбета Харкевіч** з Нараўкі, **Малгажата Галёнка, Наталля Ніканюк** з Арэшкава, **Юлія Скарбіловіч, Кацярына Лаўрашук, Эмілія Сахарэвіч, Аляксандра Валосік** з Бельска-Падляшскага, **Моніка Суровец, Карнелія Варановіч** з Бабікаў. Віншуем!



## Аўтарская сустрэча ў Гушчэвіне

У пятніцу, 15 лістапада г.г. адбылася аўтарская сустрэча ў вёсцы Гушчэвіна (Гайнаўскі павет). Дырэктарка Гміннага асяродка культуры (ГАК) у Нараўцы Галена-Марыёля Рэнт прывезла сюды тры асобы з гэтай гміны, якія пішуць вершы і апавяданні па-беларуску. Апрача жыхароў гэтага сяла на чале з солтыс Алімпіяй Сачко ў сустрэчы прыняў удзел актыўны радны Нараўчанскай гміны Ян Драўноўскі з вёскі Міклашэва.

Найбольш сваіх вершаў прачыталі Тадэвуш Кунцэвіч і Канстанцін Целушэцкі. З лірычнай прозай і вершамі выступіў Янка Целушэцкі. Публіку састаўлялі перад усім жанчыны (іх было найбольш і ўсе яны былі па-святочнаму



адзетыя і ўпрыгожаныя). Як нам сказалі, яны чакалі такой сустрэчы. Для гасцей напалілі сцяноўку ды падрыхтавалі нават салодкі пачастунак. Іх уцешыла нагода пабыць на такога роду мерапрыемстве. Хацелі б, каб такіх сустрэч у іх святліцы было больш.

Зацікаўленне было. Было што паслухаць і ўсе ўважліва слухалі паэтаў. Вершы, якія ім найбольш спадабаліся, узнагароджвалі апладысментамі. Калі б такіх сустрэч з беларускімі паэтамі было больш, тады і на „Ніву" было б больш падпісчыкаў. Ужо пачалі больш купляць яе на пошце ў Нараўцы.

Вышэйзгаданы радны купіў два экземпляры „Нівы" № 45. У ёй ёсць пра аўтарскую сустрэчу ў Плянце і на здымку бачым Т. Кунцэвіча і раднага Я. Драўноўскага. „Ніву" № 46 ад 17 лістапада г. г. купіў не толькі паэт з Лешукоў, але і іншыя зацікаўленыя асобы, між іншым, радны з Міклашэва. У ёй можна прачытаць пра вечар паэзіі ў Міхнаўцы. Таварыства „Ятрышнік" гэты допіс са здымкам ужо ўключыла ў сваю багатую хроніку. На наш родны часопіс павінна зрабіць падпіску Гмінная публічная бібліятэка ў Нараўцы. Бібліятэка ў Старым Ляўкове „Ніву" мае. Тут чытаюць таксама беларускія кніжкі.

Напрыканцы сустрэчы свае вершы на польскай і рускай мовах адважылася прадэкламаваць Вольга Раманчук з Гушчэвіны (яна ўраджэнка Старога Ляўкова, а тут замужам).

Тадэвуш Кунцэвіч спецыяльна прывёз і падараваў усім прысутным на сустрэчы гушчэвінцам і гушчэвінкам свой верш пра вёску Гушчэвіну і яе жыхароў. Вось неспадзеўка! Зараз адзін экземпляр яго вісіць на сцяне ў святліцы. Тут можа прачытаць яго кожны ахвотны наведвальнік.

Жыхары Гушчэвіны захацелі паглядзець у сябе кінафільмы „Жніво ў Ляўкове", „Калектыў „Цаглінкі" са Старога Ляўкова", „45 год керамічнай фабрыкі ў Ляўкове" (два апошнія здымаў кінааператар-аматар Юрый Равінскі са Старога Ляўкова) і іншыя. Мае іх дырэктарка ГАК у Нараўцы. Вось і зноў будзе нагода да сустрэчы. Зараз яны рыхтуюцца да Запустаў. Сустрэча з паэтамі іх разварушыла.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# ЛЁС ПРАВАСЛАЎНЫХ ЖЫХАРОЎ Беласточчыны ў 1939-1956 гадах



Канстанцін Масальскі і музейная бібліятэкарка Анджаліна Масальская

На спатканне з Канстанцінам Масальскім пад лозунгам «Лёс жыхароў Беласточчыны ў час Другой сусветнай вайны і пасляваенны перыяд», якое 15 лістапада было наладжана ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы, прыйшлі ў асноўным пажылыя людзі, якія памятаюць складаны ваенны і пасляваенны час. Канстанцін Масальскі, аўтар «Кнігі памяці праваслаўных жыхароў, ахвяр падзей 1939-1956 гадоў», выдадзенай у мінулым годзе, абапёрся ў сваёй размове з сабранымі ў галоўным на змест кніжкі, звярнуўшы асаблівую ўвагу на Гайнаўшчыну. Падзякаваў ён жыхарам Гайнаўкі за фінансавую дапамогу ў пабудове помніка праваслаўным ахвярам, які быў узведзены ў Беластоку па яго ініцыятыве. У пачатку спаткання, наладжанага ў рамках праекта «Кірыліцай пісанае», музейная бібліятэкарка Анджаліна Масальская расказала пра кніжку і заявіла, што супадзенне прозвішчаў яе і госця, ураджэнца Фальваркаў-Тыльвіцкіх Заблудаўскай гміны, выпадковае.

— Праваслаўныя жыхары Беласточчыны гінулі з рук немцаў у час вайны, а таксама ў розных абставінах у пасляваенны час. Між іншым загінулі ў 1946 годзе з рук членаў польскага падполля ў Залешанах, Вульцы-Выганоўскай, Занях і Шпаках, а каля Старых Пухалаў былі забіты вазакі з-пад Гайнаўкі. Нашыя браты-католікі дбаюць пра сваіх продкаў і ставяць ім помнікі і ў мяне ўзнікла думка, каб увекавечыць праваслаўныя ахвяры. Я стаў хадайнічаць, каб паставіць помнік усім ахвярам і пайшоў да тадышняга архіепіскапа Савы з гэтай прапановай. Ён благаславіў на выкананне помніка і я стаў збіраць калектыў для рэалізацыі такой ідэі. Мы завязалі і зарэгістравалі Аб'яднанне пабудовы помніка. Доўга змагаліся, каб атрымаць дазвол на пабудову помніка каля царквы на Антанюку, збіралі грошы на рэалізацыю гэтай задумы, — сказаў Канстанцін Масальскі ў пачатку спаткання. — У цэрквах у Гайнаўцы таксама збіралі грошы на будову помніка. Найбольш сабралі ў Свята-Троіцкім саборы, за што я моцна дзякую.

Помнік мае жалезабетонную канструкцыю, абліцаваную мармурам. Замацаваны ён у агароджы Свята-Духаўскай царквы ў Беластоку. Да падставы помніка прымацаваны вялікі камень, на якім знаходзіцца надпіс з пералікам пацыфікаваных вёсак. Ніжэй прымацаваная дошка з надпісамі на царкоўнаславянскай і польскай мовах: «Праваслаўным ахвярам Другой сусветнай вайны, мучанікам за веру і нацыянальнасць у 1939-1956 гадах. Святым Падляшскай зямлі». Зверху помнік прыкрывае купал з крыжам, а пад ім знаходзяцца іконы Збавіцеля, Маці Божай, мучаніка-дзіцяткі Гаўрыіла Заблудаўскага і мучаніка Афанасія Брэсцкага. Уся будова помніка, аўтарства Яна Кабаца і Стэфана Вышкоўскага, каштавала 70 тысяч злотых і працягвалася з 2009 па 2012 год. Падрыхтоўка да яго ўзвядзення пачалася ажно ў 1997 годзе, калі было зарэгістраванае Аб'яднанне пабудовы помніка. Было многа цяжкасцей, аб якіх расказваў падчас спаткання Канстанцін Масальскі, старшыня камітэта, бо на будову помніка доўга не згаджаліся гарадскія ўлады Беластока.

— Здаралася нават, што нашыя праваслаўныя адгаварвалі нас ставіць помнік. Казалі, што будуць яго нішчыць, абліваць фарбай, заяўлялі, што гэта непатрэбнае *ёнтшэне*. Зараз помнік стаіць і напамінае аб складаным мінулым. Людзі прыходзяць і ўскладваюць да яго кветкі, запальваюць зніччы, — заявіў Канстанцін Масальскі і расказаў пра доўгую падрыхтоўку да выдання «Кнігі памяці праваслаўных жыхароў, ахвяр падзей 1939-1956 гадоў». Змешчаны ў ёй алфавітны спісак праваслаўных ахвяр з Беласточчыны, з больш падрабязнымі іх данымі і вопісам абставін, у якіх яны загінулі. Вылучаны ў гэтым выданні асобны раздзел «Праваслаўныя беларусы і „Буры"».

— Не спаткаўся я з крытыкай маёй кніжкі. Былі толькі невялікія заўвагі, — гаварыў аўтар. Зафіксаваў ён у кніжцы 4784 праваслаўныя асобы з 598 мясцовасцей, якія загінулі ў 1939-1956 гадах.

— Складана было збіраць інфармацыю аб нашых праваслаўных людзях, што гінулі ў розных абставінах і ў розных месцах. Бывала, што наконт тых самых асоб паступалі супярэчлівыя інфармацыі і трэба было правяраць іх у архівах. Навучыўся я збіраць інфармацыю, прасядзеў многа часу ў Дзяржаўным архіве ў Беластоку, у архівах Інстытута нацыянальнай памяці і Беластоцка-Гданскай епархіі, шукаў у іншых месцах. Нават на могілках збіраў весткі аб загінуўшых, але гэта таксама няпэўная крыніца, бо і там здараюцца памылкі. Мала ўжо зараз старэйшых святароў, якія маглі б удакладніць такія весткі. У архівах таксама здараліся памылкі, бо, напрыклад, мянялі імёны. Кніжку я аддаў да прачытання прафесару Яўгену Міраповічу, які рэкамендаваў зрабіць толькі невялікія папраўкі, — сказаў Канстанцін Масальскі.

Аўтар у час сустрэчы асаблівую ўвагу адвёў праваслаўным, загінуўшым на Гайнаўшчыне. Удакладніў ён, што там, дзе зараз знаходзіцца пошта ў Белавежы, у час вайны знаходзілася катоўня гестапа.

— У Белавежы расстрэльвалі яшчэ каля царквы. Людзі з Гайнаўшчыны гінулі ў розных месцах. Я стараўся знайсці інфармацыю аб іх. Напрыклад, 12 чалавек з Гайнаўшчыны загінулі ажно ў Брэсцкай крэпасці, — сказаў Канстанцін Масальскі.

— Вяду я размовы і хацеў бы яшчэ давесці да ўзвядзення помніка праваслаўным жыхарам і свяшчэннікам, якія загінулі ў час бежанства 1915 года, якое было вялікім нашым няшчасцем, — заявіў неспадзявана Канстанцін Масальскі.

Яго прапанова была ўспрынята сабранымі са зразуменнем, бо ж многа людзей з Гайнаўшчыны загінула ў час бежанства або непасрэдна пасля вяртання.

— Збіраю я таксама матэрыялы з думкай аб кніжцы пра пасляваенную дзейнасць падполля на нашых землях, якую мая сям'я адчула на сваёй скуры. Тады мы не ведалі ці пражывем. Бывала, што нашы людзі нават закопвалі харчы, каб людзі з лесу ім не забралі, — працягваў аповед Канстанцін Масальскі. — Пасля вайны ў нашую хату ў вёсцы Фальваркі-Тыльвіцкія зайшлі ноччу асобы ў мундзірах. Мужчына ўдарыў маці прыкладам вінтоўкі ў грудзі так моцна, што яна ажно паляцела на сцяну. Загадалі не запальваць святла, а пры сваіх ліхтарах добра абабралі нас з харчоў. Моцна бацьку пабілі і загадалі выязджаць за Буг. Бацька расказаў аб гэтых падзеях у Заблудаве, але нехта падслухаў яго размову і потым прыходзілі да нас ноччу і чатыры разы разбівалі вокны. Бацька зрабіў схованку паміж акном і лесвіцай, дзе проста начаваў, а мы, дзеткі, хаваліся паміж печкай і сцяной, каб у нас нечым не кінулі. Добра, што не рашыліся заходзіць у хату. Магчыма, баяліся, што бацька можа неспадзявана нечым іх абдзяліць. Перажыўшы такое, я і хацеў пакінуць нейкую памятку аб ахвярах перыяду вайны і пасляваеннага часу.

Старэйшыя ўдзельнікі сустрэчы таксама ўспаміналі пра выпадкі запалохвання беларускага насельніцтва. На спатканне прыбылі, між іншым, былы бурмістр Гайнаўкі Анатоль Ахрыцюк, былы старшыня аб'яднання «Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы» Ян Хіліманюк, сённяшні віцэ-старшыня гэтага аб'яднання Аляксандр Харкевіч і былыя белліцэйскія настаўнікі і музейныя актывісты Аляксей Харкевіч і Васіль Сакоўскі.

— Пасля вайны нападалі на нашы вёскі, бо хацелі запалохаць беларусаў і выгнаць з нашай тэрыторыі на ўсход, — заявіў віцэ-старшыня музейнага аб'яднання Аляксандр Харкевіч, які таксама шукаў матэрыялы наконт пасляваеннага перыяду. — У некаторых нашых сёлах ствараліся атрады самаабароны, якім нават раздавалі вінтоўкі, каб маглі абараняцца.

Частка сем'яў выехала на пастаяннае жыхарства ў Савецкі Саюз ад страху, многа беларусаў адправілася туды ў выніку агітацыі, у час якой вельмі расхвальвалі жыццё за ўсходняй мяжой.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Нараўчанскі патрон

**Спрэчным патронам публічных месц на Беласточыне мела быць прысвечаная сустрэча, сарганізаваная Беластоцкім аддзелам Інстытута нацыянальнай памяці (ІНП) у сядзібе Архідыяцэзійнага архіва і музея ў Беластоку. Тым часам дыскусія сканцэнтравалася на асобе Аляксандра Валкавыцкага, імя якога шмат гадоў носіць Пачатковая школа ў Нараўцы.**

Адкрываючы дэбаты, вядучы яе гісторык, прэс-сакратар Беластоцкага аддзела ІНП Тамаш Данілецкі спаслаўся на вызначэнне «патрона»-заступніка. Такім чынам, згодна з ім, гэта заслужаны і, як правіла, ужо памерлы чалавек, чыё імя прысвойваецца ўстанове або нейкаму месцу. Паставіў пытанне сацыёлагу з Універсітэта ў Беластоку, аднаму з чатырох удзельнікаў дыскусіі Радаславу Арышчышыну, для чаго грамадскасці патрэбныя заступнікі ў гэтым сэнсе слова:

— Заступнік — гэта асоба, якая адпавядае патрэбам мясцовай супольнасці, але часта адлюстроўвае погляды больш шырокага спектра грамадства. І тут паяўляюцца канфлікты. Даходзіць да канфлікту памяці. Здзіўляе мяне няведанне таго, хто з'яўляецца заступнікамі. Я вырас на Дзесяцінах (мікраараён Беластока — М. Х.) і пытаўся, хто гэта генерал Зыгмунт Берлінг, якога імя носіць адна з мясцовых вуліц. Веды аб ім былі роўны нулю.

Тамаш Данілецкі пералічыў шэраг вуліц з назвамі ад імён персанажаў, якія ўмацоўвалі камуністычную сістэму, і ўсё яшчэ знаходзяцца ў Сейнах і Гайнаўцы. Іншы ўдзельнік дыскусіі Марэк Кетлінскі, дырэктар Дзяржаўнага архіва ў Беластоку, саўтар кнігі „Беластоцкія вуліцы і іх заступнікі», паведаміў, што ў сталіцы Падляшша яшчэ ёсць больш дзесятка вуліц, якія носяць імёны асоб заслужаных перад камуністычнай сістэмай. Размешчаны яны ў адным з кварталаў мікрараёна Пятрашы.

— Калі б спытацца, асабліва ў маладых, хто такі, напрыклад, Янак Красіцкі (сталінскі актывіст і агітатар, старшыня Саюза барацьбы маладых, прыбудоўкі камуністычнай Польскай рабочай партыі (ПРП), і яго імем называецца адна з вуліц на Пятрашах — М. Х.), ніхто б яго не асацыяваў. У Беластоку пры вуліцы з імем кожнага патрона павінны напісаць дату яго нараджэння, і хто гэты чалавек быў. Ад гэтага трэба пачаць адукацыю. Варта разгледзець пытанне аб стварэнні экспертнай камісіі гісторыкаў, якія абмяркавалі б спрэчныя назвы.

Тамаш Данілецкі нагадаў, што ўжо пасля 1989 г. перайменавалі ў Польшчы, у тым ліку ў Беластоку (у асноўным у цэнтры) шэраг назваў вуліц, якія ганебна асацыююцца, „на што быў агульны дазвол". Аднак гэты працэс не быў завершаны.

## Камуністычны арганізатар

Размову пра Аляксандра Валкавыцкага — патрона Пачатковай школы ў Нараўцы — папярэдзіла выслуханне двух фрагментаў рэпартажу «**Patron**» Агнешкі Чаркоўскай з Радыё Беласток з 2005 г., які быў прысвечаны якраз яму. У адным выказваецца Яўген Валкавыцкі, былы дырэктар школы, чый бацька быў родным братам патрона:

— Аляксандр Валкавыцкі і да вайны, і пасля вайны быў настаўнікам. Ён дапамог многім жыхарам гміны. Ён ведаў нямецкую мову, негацыяваў з немцамі і, магчыма, выратаваў шматлікіх ад смерці. Хто быў ініцыятарам назваць яго імем школу, я не магу адказаць. Магчыма, хтосьці з экзекутывы ПАРП, таму што ён быў забіты Арміяй Краёвай.

Пётр Лапінскі, даследчык незалежніцкага падполля на Беласточчыне, супрацоўнік ІНП у Беластоку сказаў:

— Інфармацыя пра ліквідацыю ў Нараўцы змешчана ў адным з дакладаў „Лупашкі» (Зыгмунта Шэндзеляжа, які ўзначальваў V Віленскую брыгаду АК, вядомую як „брыгада смерці" — М. Х. ). У ім пералічаны імёны чатырох ліквідаваных. Пры Аляк-



сандры Валкавыцкім ёсць дапіска „камуністычны арганізатар". „Лупашка" не прыдумваў кожную раніцу, каго б тут ліквідаваць. Віленская брыгада ўваходзіла ў склад цэлага падполля. „Лупашка" рашэнні не прымаў у адзіночку. Рашэнне аб ліквідацыі ў Нараўцы прыняло начальства АК у Бельску-Падляшскім і Беластоку, а пакаранне выканаў IV шwадрон Віленскай брыгады.

Аляксандра Валкавыцкага расстралялі 17 мая 1945 г. Іншыя ліквідаваныя гэта войт Нараўкі Ян Ляшчынскі, сакратар гміны Пятро Кабаць і гаёвы Мікалай Леўша. Помнік усім чатыром, узведзены ў час ПНР, стаіць у цэнтры Нараўкі. Аляксандр Валкавыцкі мае ў Нараўцы яшчэ вуліцу свайго імя. Пётр Лапінскі дадаў:

— Дзейнасць Аляксандра Валкавыцкага далёка перавышала меркаванне аб ім як «камуністычным актывісце». Быў ён актыўным членам Беларускага камітэта, які займаўся не толькі арганізацыяй хароў і школ. Ценем кладзецца яго тагачаснае супрацоўніцтва з нямецкім апаратам бяспекі ў адносінах да людзей нязручных, ці каталіцкага, ці праваслаўнага веравызнанняў. І гэта сур'ёзнае абвінавачанне. Ёсць пратаколы з паказанняў, калі на кагосьці быў данос. Ёсць вера ў гэтыя дакументы, хаця можна іх паставіць пад сумнеў, бо паказанні могуць быць зроблены, напрыклад, у гневе або помсце. Няма дакументацыі, звязанай са спіскам асоб, якія належалі да Беларускага камітэта, рэестра пасведчанняў асобы, выдадзеных Камітэтам. Гэтую дакументацыю пераняў УБ, у які трапілі людзі, звязаныя з Камітэтам. Вядомы актывісты УБ і Беларускага камітэта, якія былі суджаны, але няма ўсіх квітанцый.

## Плён справы Ясяніцы

Як відаць з выказванняў герояў рэпартажу Агнешкі Чаркоўскай, імя школе было прысвоена 5 студзеня 1972 г., для ўшанавання трыццацігоддзя ПРП. Адпаведная рэзалюцыя ПАРП у Гайнаўцы была прынята па гэтым пытанні ў снежні папярэдняга года. Аднак, паводле слоў Пятра Лапінскага, факт назначэння школе якраз гэтага імя, гэта яшчэ наступства справы ад'ютанта «Лупашкі», афіцэра АК Паўла Ясяніцы (сапраўднае прозвішча Лех Бейнар), тобок, абвінавачванняў, прадстаўленых тады ўжо гістарычнаму пісьменніку ўладамі за яго падтрымку пратэстаў студэнтаў у сакавіку 1968 г.:

— Рэха справы Ясяніцы дайшло на Беласточчыну. Заступнік быў памазаны зверху, але падыходзіў мясцоваму грамадству.

Удзельнік дыскусіі праф. Алег Латышонак, гісторык з Універсітэта ў Беластоку, пераконваў:

— Для грамадскасці ў Нараўцы Аляксандр Валкавыцкі з'яўляецца арганізатарам беларускага школьніцтва, якому немцы дазволілі працаваць. Нават калі хтосьці паказаў яго як інфарматара, гэта не мусіць азначаць, што гэтак было. Польская дзяржава для беларусаў тады не была радзімай, мусілі тут жыць без свайго выбару. Прыйшлі да высновы, што мусяць супрацоўнічаць з такой уладай, якая ёсць: хтосьці мусіць быць ва ўладзе, хтосьці мусіць вучыць дзяцей.

Тамаш Данілецкі звярнуў увагу на тое, што прыгавор Аляксандру Валкавыцкаму вынеслі не як „беларускаму арганізатару", а як „камуністычнаму арганізатару".

Пётр Лапінскі:

— Кожны з гэтых чатырох чалавек, якіх расстралялі, былі членамі Польскай рабочай партыі, партыі, якая дзейнічала на шкоду польскай дзяржавы.

Тамаш Данілецкі:

— Які мусіў быць шок для гэтай грамады, калі даведалася, што забілі яе настаўніка, таго, хто нясе беларускую адукацыю. І гэта сёння акцэнтуецца.

Алег Латышонак:

— Палякі звычайна атаясамлівалі супрацоўніцтва з «беларускай арганізацыяй» з супрацоўніцтвам з «камуністычнай арганізацыяй». Той, хто тады хацеў беларускага школьніцтва, зразумела, лічыўся «камуністычным арганізатарам». У прысудзе не было паднята супрацоўніцтва Аляксандра Валкавыцкага з немцамі, у чым яго дакараюць цяпер. На думку беларусаў Валкавыцкі не здрадзіў польскай дзяржаве, толькі хацеў знайсці ім месца ў гэтай дзяржаве.

Пётр Лапінскі:

— Я хацеў бы адзначыць вельмі цікавае паведамленне, якое было атрымана аўтарам адной з магістарскіх прац — Бернардам Вядэрным, які дайшоў у Нараўку ў 1980-х і гаварыў з сям'ёй Валкавыцкага, якая сцвердзіла, што ён быў забіты за тое, што аддаваў перавагу жыць у беларускай дзяржаве, а не ў польскай.

Амаль у канцы паўтарагадзіннай дэбаты Алег Латышонак сказаў:

— Калі патрон выклікае спрэчкі, і немагчыма давесці ніякіх доказаў супраць яго, трэба яго пакінуць.

У ходзе абмеркавання выступіў Багуслаў Лабэндзкі, каталіцкі катэхет Пачатковай школы ў Нараўцы, радны ад ПіС у Гайнаўцы. Ён пералічыў імёны, якіх не павінны насіць вуліцы ў Гайнаўцы. Успомніў, у прыватнасці, Якуба Коласа і Янку Купалу, таму што яны хацелі **«zakuć Polskę w kajdany»**. Успомніў таксама:

— У Першым шwадроне смерці V Віленскай брыгады была таксама беларуская дружына. Адзін яе салдат загінуў і ёсць на Тапіле яго магіла.

Ён прывёў паведамленне Польскага агенцтва друку з 1968 года азагалоўленае: „Жыхары вёскі Нараўка, у якой мардавала банда „Лупашкі", патрабуюць пакарання Паўла Ясяніцы". Іншы з прысутных у зале, радны першага склікання беластоцкага мясцовага самакіравання, актывіст першай „Салідарнасці" Ежы Ямялкоўскі падвёў:

— Калі людзі ў Нараўцы хочуць мець такога заступніка, няхай яго маюць, калі ІНП не можа даказаць, што ён злачынец.

## „Інка" за Валкавыцкага

На сайце Пачатковай школы ў Нараўцы пра Аляксандра Валкавыцкага можна прачытаць: „Гэтая постаць моцна звязана са школай і асяроддзем, пра што сведчыць актыўнасць у распаўсюдзе і развіцці адукацыі і культуры ў цяжкія гады вайны. Прышчапляў дзецям і моладзі веру ў сілы і будучыню навукі, адукацыі і культуры". Працаўнікі заступніка школы ў Нараўцы сцвярджаюць, што ён цесна супрацоўнічаў з НКВД і гестапа, і, перш за ўсё, данёс нацыстам на маці „Інкі", то-бок, Дануты Седзікоўны, пазнейшай сувязной «Лупашкі». ІНП не пацвярджае гэтага факту. Ліга абароны суверэнітэту, арганізацыя, якая ідэнтыфікуе сябе як нацыянал-патрыятычны рух, сабрала подпісы, у тым ліку пяцідзесяці жыхароў Нараўкі, з патрабаваннем пазбавіць школу імя цяперашняга заступніка. Маюць намер іх прадставіць войту і Гміннай радзе. Чакаюць таксама, пасля свайго пратэсту некалькі тыдняў таму пад Падляшскай ваяводскай управай, меркавання ваяводы ў гэтай справе. У лісце яму напісалі м.інш.: „Справаздачы V Віленскай брыгады АК, дзейнічаючай у той час на Падляшшы і пад камандаваннем маёра Зыгмунта Шэндзеляжа «Лупашкі», вызначаюць Валкавыцкага як „камуністычнага арганізатара". Гэта якраз салдаты гэтай Брыгады выканалі смяротны прысуд над Валкавыцкім і, што змешчана ў дакументацыі ІНП, у яго выпадку не можа быць ніякай памылкі, паколькі за выкананне смяротнага прысуду адказваў камендант раёна Бельск-Падляшскі АКО паручнік Ян Трусяк „Карыцкі", выдатны юрыст, які выносіў прысуды толькі ў доказаных выпадках, напрыклад, шкоднай агентурнай дзейнасці, здрады польскай дзяржаве і бандытызму. Па сведчанні салдат V Віленскай брыгады АК, Валкавыцкі быў супрацоўнікам Упраўлення бяспекі. Факт асуджэння да вышэйшай меры пакарання даказвае таго, што ён мусіў прымаць надзвычай актыўны ўдзел у зняволыванні Польшчы".

Рафал Жак, адзін з лідараў гэтага руху падкрэсліваe, што ўсхвальванне камуністычных злачынцаў нязгоднае з польскай канстытуцыяй, якая забараняе прапагандаваць крымінальныя сістэмы: фашызм і камунізм:

— Дакументы, якія мы атрымалі ад ІНП, ясна паказваюць, што ён быў сакратаром мясцовых структур ПРП. Таму прымаў удзел у стварэнні камуністычнага рэжыму ў нашай краіне. Такі чалавек не павінен быць апекуном школы.

Ліга хацела б змяніць школьнага патрона на «Інку», ураджэнку Нараўкі. Мясцовыя ўлады не хочуць змен. Як запэўнівае Мечыслаў Грыц, старшыня Гміннай рады, удзельнікі сесіі, якая ўзняла пытанне змены заступніка школы, падкрэслівалі, што мясцовыя людзі, якія яшчэ жывуць, ведалі Аляксандра Валкавыцкага як прыстойнага чалавека, сціплага, які дапамагаў людзям. У сваю чаргу дырэктарка школы ў заявах для прэсы сказала:

— Вакол патрона нашай школы створаны велізарны ажыятаж. Тым не менш у нас няма сігналаў ад бацькоў і мясцовай супольнасці, каб яго змяніць. А якраз гэтае меркаванне павінна быць самым важным у гэтым выпадку. Калі гэтае пытанне я ставіла ў маіх гутарках з бацькамі і настаўнікамі, яны часта скардзіліся, што хтосьці звонку хоча навязаць ім сваё меркаванне.

У дакуменце, падрыхтаваным Інстытутам, можна прачытаць: „Няма вядомых крыніц, якія дакументуюць дзейнасць Аляксандра Валкавыцкага ў перыяд да ўступлення на тэрыторыю Беластоцкага ваяводства Чырвонай Арміі ў ліпені 1944 года. Такім чынам, праверка справаздач аб яго нібыта канфідэнцкім супрацоўніцтве з нямецкім акупантам і суадказнасці за смерць Яўгеніі Седзіковай у цяперашні момант немагчымая". Тым не менш, у сваёй пазіцыі ў справе патрона Пачатковай школы ў Нараўцы, ІНП заяўляе: „Варта адзначыць, што захаванне назвы Пачатковай школы ў Нараўцы імя Аляксандра Валкавыцкага і вуліцы Аляксандра Валкавыцкага ў гэтай мясцовасці ў іх цяперашняй фармулёўцы супярэчыць польскай прававой сістэме (артыкул 13 Канстытуцыі РП ад 2 красавіка 1997 года і арт. 256 Крымінальнага кодэкса). Неабходна таксама адзначыць, што такое становішча, якое можна інтэрпрэтаваць як пахвалу злачыннай ідэалогіі і дзейнасці накіраванай супраць суверэнітэту польскай дзяржаўнасці, з'яўляецца сацыяльна шкодным, асабліва ў кантэксце адукацыйнай місіі Пачатковай школы ў Нараўцы".

Тым часам успомнены ўжо Б. Лабэндзкі падчас дыскусіі прывёў цытату з грыпса Яўгеніі Седзіковай, маці „Інкі", у якім яна вінавaціць у сваёй выдачы ў рукі гестапа тры асобы, сярод якіх няма Аляксандра Валкавыцкага. Тым самым зусім фальшывым аказваецца дакор, што ён быў канфідэнтам, які выдаў матку „Інкі".

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Адноўленая памяць

**Жыхары Папоўкі былі расстраляны нацыстамі за дапамогу мясцовым партызанам. Наймалодшай ахвяры не споўнілася нават двух гадоў. Іх невялікую вёску, схаваную сярод лясоў Кнышынскай пушчы, спалілі, а папялішча зааралі. Але застаецца памяць.**





На праваслаўных могілках у Каралёвым Мосце аднавілі помнік, які знаходзіцца на месцы спачыну 37 ахвяр генацыду. На дошцы змешчаныя імёны і прозвішчы ахвяр, а таксама інфармацыя, у якім узросце загінулі. Відаць, нацысты падчас забойства не зліталіваліся нават над дзяцьмі. На памятнай дошцы можна іх налічыць 16. Наймалодшых закопвалі жыўцом, бо шкадавалі амуніцыі. Паводле жыхароў Гарадка, у месцы, дзе была масавая магіла, яшчэ тры дні варушылася зямля.

На пачатку магіла загінулых жыхароў Папоўкі знаходзілася ў лесе непадалёк Гарадка. Там дзе іх расстралялі, там і закапалі. Але зараз пасля вайны ў 1946 годзе парэшткі эксгумавалі і перавезлі на могілкі ў Каралёвым Мосце.

Новы помнік пабудаваны быў дзякуючы намаганням Управы гміны Гарадок.

— Грошы на аднаўленне помніка атрымалі мы з дзяржбюджэту, — сказала гмінная радная Эва Бозік. — З заяўкай звярнуліся да падляшскага ваяводы і Рады аховы памяці барацьбы і пакутніцтва.

Ва ўрачыстасцях асвячэння новага помніка ўдзельнічалі сем'і і суседзі ахвяр, прадстаўнікі ваяводы, гміны, надлясніцтва Валілы і гімназісты з Гарадка.

Чытаючы прозвішчы ахвяр, увагу прыцягвае факт, што большасць з іх, бо 30, гэта Дзенісюкі.

— У Папоўцы стаялі 4 хаты, у якіх жыло 5 сем'яў. Усё гэта былі сваякі, дваюрадныя ды траюрадныя браты, — кажа Марыя Цырманская з непадалёкіх Пяшчанік, якой хросны бацька Аляксандр Заяц загінуў разам з жыхарамі Папоўкі.

— Папоўка знаходзілася сярод вялікага лесу, таму, на жаль, часта прыходзілі сюды партызаны, — кажа сваяк замардаваных Мікалай Дзенісюк. — Выходзілі з лесу ўначы. Ад мясцовых атрымлівалі ежу.

У час нямецкай акупацыі ў лесе непадалёк Папоўкі знаходзіўся партызанскі лагер. Жыхары навакольных вёсак дапамагалі „сваім" партызантам. Нярэдка ў лесе ваявалі таксама мясцовыя. Аддавалі ім ежу, вопратку, зброю ды амуніцыю.

— Аднак знайшоўся якісьці здраднік. Нібыта калега. Выдаў ён партызан і жыхароў Папоўкі, — дадае Мікалай Дзенісюк.

З красавіка 1943 года ў атрадзе мясцовых партызан пачаў працаваць „сышчык" Яўген Бівойна. Праявіў ён вялікую актыўнасць, здабыў давер калег, а таксама пазнаў людзей з Папоўкі, якія дапамагалі партызанам. Дзякуючы інфармацыям Бівойны, беластоцкае гестапа выслала ў ваколіцы вёскі карную экспедыцыю. Партызаны ўцяклі перад нямецкім войскам, а мужчын з Папоўкі немцы забралі ў Гарадок, дзе катавалі іх некалькі дзён. 3 ліпеня ў Гарадок прывезлі таксама жанчын і дзяцей. Усіх разам расстралялі і закапалі ў лесе, непадалёк яўрэйскіх могілак.

На гэтым месцы сёння стаіць абеліск з памятнай дошкай, які ўзвялі ў 1965 годзе. У месцы, дзе калісь стаялі хаты і гаспадарчыя будынкі жыхароў Папоўкі, у 1982 годзе паставілі помнік маці, якая абдымае сваё дзіця. Помнік адкрыла адзіная, цудам выратаваная ад смерці Альжбета Дзенісюк.

**Тэкст і фота Лукаша ЛЕАНЮКА**




Не так даўно ў Беластоку адбылася незвычайная падзея. Адзін з адносна новых магазінаў Atrium Biała (Атрыум „Белая") стварыў беларускамоўную версію свайго сайта. Падзея настолькі незвычайная, што нават беларускія незалежныя медыя не змаглі не надаць ёй сваёй увагі. Так, інфармацыя аб гэтым з'явілася, прынамсі, на сайце http://charter97.org.

Калі ўважліва паглядзець на беларускую версію сайта **www.atrium-biala.pl**, то можна заўважыць, што не ёсць яна данінай беларускай меншасці Падляшша, якая дэманструе няўхільную тэндэнцыю да яшчэ большага змяншэння. Тут бачны хітры маркетынгавы ход па прыцягненню пакупнікоў з Усходу, сярод якіх пераважаюць жыхары бліжэйшай да Atrium Biała суседняй краіны. Так, выйсце на беларускую версію праз афіцыйны лукашэнкаўскі чырвона-зялёны сцяжок, які не з'яўляецца сімвалам ані беларусаў Падляшша, ані беларусаў з Беларусі, якія бачаць сваю краіну ў сям'і еўрапейскіх народаў, якія паважаюць дэмакратычныя каштоўнасці. Але паколькі да беларускай мовы нават сярод „чырвона-зялёных" ёсць паважлівае стаўленне, зрэдку перарастаючае ў трапяткое, уладальнікі гандлёвага цэнтра не памыліліся, зрабіўшы стаўку на дэманстрацыю віртуальнай беларускамоўнасці. Па-першае, гэта выдзяляе Atrium Biała сярод мноства падобнага кшталту беластоцкіх гандлёвых цэнтраў, па-другое, прыцягвае ўвагу беларусаў з Беларусі, якія лічаць, што беларуская мова патрэбная, хоць на ёй яны і не размаўляюць, чапляючы іх за нацыянальныя пачуцці, і па-другое, верагодна, выклікае захапленне ў падляшскіх беларусаў і „бел-чырвона-белых", якія ад радасці за выкарыстанне беларускай мовы ў адным шэрагу з англійскай не стануць зважаць на маленькі чырвона-зялёны гузік.

Што ж тычыцца афармлення беларускай версіі сайта гэтага гандлёвага цэнтра, то зроблена яно вельмі прывабна — гандляры ведаюць, якімі колерамі, выявамі і макетаваннем прыцягнуць увагу патэнцыйных пакупнікоў. Тут сумненняў быць не можа: Atrium — адзін з лідыруючых уладальнікаў, апаратараў і дэвелапераў гандлёвых цэнтраў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Яго магазіны размешчаны пераважна ў Польшчы, Чэхіі, Славакіі і Расіі.

Канешне, не абышлося на беларускай версіі сайта Atrium Biała без невялікіх памылак. Напрыклад, вельмі цяжка было зразумець, што значыць „беларускае" слова „адрачынак" у рубрыцы „Катэгорыі тавараў". Без звяртання да польскай версіі сайта, з якой, па ўсім відаць, і быў зроблены пераклад на беларускую мову, так і не ўдалося ўцяміць, што гэта „адпачынак" — па-простую літары перабылыталі. Але, як кажуць, і на сонцы ёсць плямы, таму на іншыя хібы перакладу не варта зважаць хваравіта.

Што ж тычыцца напаўнення ўсіх рубрык сайта, то тут таксама ёсць адрозненні польскай версіі ад англійскай і беларускай. Так, „Навіны" на апошніх зусім пустыя. Тут, канешне, уладальнікі Atrium Biała далі маху — калі ўжо завялі іншамоўныя версіі, то варта клапаціцца і аб іх своечасовым напаўненні. Пакуль жа з навінамі гандлёвага цэнтра можна азнаёміцца толькі па-польску.

Нягледзячы на ўсе гэтыя недахопы сайта Atrium Biała, хацелася б, каб да беларускамоўнага прыкладу ўладальнікаў гэтага гандлёвага цэнтра прыглядзеліся іншыя гандляры як на Падляшшы, так і ў Беларусі.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара



Змагар, літаратар, дзеяч

## 110 гадоў з дня нараджэння Піліпа Пестрака

Беларускі літаратар, грамадска-палітычны дзеяч Піліп Пестрак нарадзіўся 27 лістапада 1903 г. у вёсцы Сакаўцы Слонімскага павета (цяпер Івацэвіцкі раён). У час першай сусветнай вайны сям'я Пестрака была ў бежанстве ў Самарскай губерні, дзе будучы пісьменнік атрымаў сярэднюю адукацыю. У 1920 г. Піліп паступіў на сацыяльна-гістарычны факультэт Самарскага ўніверсітэта. У 1921 г. разам з бацькамі вярнуўся ў Заходнюю Беларусь. У 1921-1924 гг. працаваў леснікам Касаўскага лясніцтва, пазней тры гады служыў у Войску Польскім. Быў актыўным удзельнікам заходнебеларускага руху, сябрам Беларускай сацыялістычнай работніцкай грамады. З 1927 г. стаў сакратаром Касаўскага падпольнага райкама КПЗБ. Нейкі час жыў у Слоніме. У 1929 г. быў арыштаваны польскімі ўладамі і зняволены ў Гарадзенскую турму, дзе сядзеў да 1933 г. Пасля вызвалення быў інструктарам ЦК КПЗБ па Пінскай акрузе, але ў 1934 г. зноў арыштаваны. Сядзеў у турмах Пінска, Вільні, Гродна. Вызвалены савецкімі ўладамі пасля прыходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь у верасні 1939 г. Агулам правёў у турмах амаль 11 гадоў.

З 1939 г. заняў пасаду сакратара гарадскога камітэта кампартыі ў Гродне. Адначасна стаў сябрам Саюза пісьменнікаў Беларусі. У 1940-1941 гг. — старшыня Беластоцкага аддзялення СП Беларусі. У 1942-1943 гг. быў удзельнікам партызанскага руху. Працаваў начальнікам Упраўлення па справах мастацтва пры СНК БССР (1943-1945), у Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР (1946-1948), літкансультантам СП БССР (1948-1951). З 1951 г. на творчай працы. Пры жыцці быў уганараваны ўладамі БССР рознымі прэміямі, у тым ліку быў названы заслужаным дзеячам культуры БССР.

Як літаратар Пестрак дэбютаваў у друку ў 1926 г. у часопісе „Родныя гоні". У час турэмнага зняволення змяшчаў вершы ў нелегальным рукапісным часопісе „Краты", які выдаваўся палітвязнямі. У 1940 г. апублікаваў першы зборнік вершаў „На варце". Тэме змагання ў Заходняй Беларусі прысвяціў раман „Сустрэнемся на барыкадах" — гэта найбольш вядомы твор пісьменніка. Яшчэ адзін раман „Серадзібор" прысвечаны жыццю вёскі. Пестрак вядомы таксама як перакладнік польскіх (Элізы Ажэшкі, Юльюша Славацкага, Уладыслава Бранеўскага, Станіслава Дабравольскага, Ежы Путраманта), украінскіх (Івана Франко, Лесі Украінкі, Максіма Рыльскага, Паўла Тычыны), латышскіх, літоўскіх аўтараў.

Піліп Пестрак памёр 22 жніўня 1978 г. у сталіцы Беларусі. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску. Імем Пестрака названы вуліцы ў Гродне і Мінску. На некаторыя яго вершы напісаны песні. Можна па-рознаму ставіцца да асобы і дзейнасці Піліпа Пестрака, але трэба ўлічваць няпростыя знешнепалітычныя варункі дваццатых-трыццатых гадоў. Бясспрэчна адно, Піліп Пестрак быў беларускім патрыётам, змагаўся за беларускую справу і гэта для нас галоўнае.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Развітанне з Марыяннай Папялушкай

**Сотні людзей прыехалі 23 лістапада ў Сухаволю, каб развітацца з маці блаславёнага Ежы Папялушкі, Марыяннай. Памерла яна на 93 годзе жыцця ў аўторак 19 лістапада. У ліку тых, хто прысутнічаў у жалобнай імшы, было вышэйшае духавенства Касцёла, дэлегаты ад прафсаюза „Салідарнасць” з усіх куткоў Польшчы. Прыбыў таксама яго былы старшыня Лех Валэнса. Жалобную імшу ў касцёле свсв. Пятра і Паўла ўзначаліў архібіскуп Эдвард Азароўскі.**

— Бог быў яе жыццём, радасцю і сілай, — сказаў у час гаміліі архібіскуп Эдвард Азароўскі. — Памятайма, нязвыкласць знаходзіць адлюстраванне ў тым, што звычайнае. Хай жа Марыянна будзе нашай настаўніцай і заступніцай перад Богам.

Ksiądz Jerzy dzieckiem będąc
mówił tylko po prostemu
to znaczy po białorusku,
Szeleszczącą mową
tych pól, zagajników, pastwisk...

Dopiero później
polszczyzna
ogarnęła go silnym ramieniem,
weszła w niego,
przemówiła nim do Boga i ludzi.

Może teraz,
kiedy stanął przed Bogiem
znów odezwała się
w zmieszaniu
mowa dzieciństwa
„Baćka prabacz im kali łaska”

Верш Віктара Варашыльскага, напісаны пасля весткі пра смерць кс. Ежы Папялушкі ў 1984 годзе.

У імшы прысутнічаў таксама варшаўскі мітрапаліт кардынал Казімеж Ныч, які звяртаў увагу на прастадушнасць і дабрыню Марыянны Папялушкі.

Пасля слоў развітання прадстаўнікоў вышэйшага духавенства Каталіцкага касцёла ўсім ахвотным была дадзена магчымасць памаліцца за нябожчыцу.

— Хочам падзякаваць, дарагая маці, за Твае дабро, за Твой клопат, за капелана „Салідарнасці” ксяндза Ежы Папялушку. Пасля яго пакутніцкай смерці цэлую сваю любоў мы пералілі на Цябе. Будзеш жывая ў сэрцах „Салідарнасці”. Мы пра Цябе не забудзем, — такія словы спачування ад імя прафсаюза „Салідарнасць” перадаў яго цяперашні старшыня Пётр Дуда.

Пасля імшы жалобная працэсія прайшла на парафіяльны могільнік, дзе ў сямейнай магіле спачыла Марыянна Папялушка.

Марыянна Папялушка нарадзілася ў Гродзіску непадалёк Сухаволі ў 1920 годзе. Яна выйшла замуж за Уладзіслава Папялушку. Супольна з мужам жыла ў Акопах, дзе займаліся на гаспадарцы. У яе было пяцёра дзяцей. Яе сын, блаславёны Ежы Папялушка ў час ваеннага становішча ў Польшчы ўславіўся імшамі за айчыну, за што быў зненавіджаны камуністычнай уладай. Айцец Ежы загінуў пакутніцкай смерцю 19 кастрычніка 1984 года. Закатавалі яго супрацоўнікі польскіх камуністычных спец-служб, а цела ўтапілі ў заліве непадалёк Влацлаўка. Забойцы былі хутка знойдзены і асуджаны. Беатыфікацыйны працэс ксяндза Ежы пачаўся пры пантыфікаце папы Яна Паўла II, а завяршыўся 6 чэрвеня 2010 года. Маці блаславёнага вельмі перажывала смерць сына, але неаднойчы гаварыла, што выбачае яго забойцам. Дэвізам ксяндза Папялушкі былі словы: „Зло перамагай дабром”.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**





# 01.12 — 07.12

**(22.03. — 20.04.)** Снежань будзе патрабаваць ад цябе асцярожнасці і тактычнасці. Адкрыюцца перад табой новыя магчымасці, будзеш мець мноства творчых задум, інспірацый, актыўна правядзеш час. Прыліў энергіі, добрая форма. Але не чапай важных фінансавых спраў. Бараны з апошняга тыдня сакавіка: увесь месяц нічога не пазычайце!

**(21.04. — 21.05.)** Слухай голасу розуму. Лішне моцныя эмоцыі могуць табе намяшаць у жыцці. Будзеш гейзерам энергіі. Дбай аб зубы і суставы. У кар'еры крыху застою або змен, на якія ты негатовы. Ад 5.12. час дадатковых заробкаў і неспадзяваных прэзентаў у грашах (не выдавай усяго адразу). Не насі з сабою многа грошай. 1-4.12. не дай сябе злавіць калекцыянеру.

**(22.05. — 22.06.)** 1-5.12. разгорнеш крылы і кінешся ў вір новых дзеянняў, пашчасціцца таксама ў фінансах. Пастаў на дысцыпліну, удасца табе шмат. Лёгка справішся ў снежні з кепскімі звычкамі. 4-8.12. замяшанне на працы; пільнуйся і час ад часу ўступі калегам.

**(23.06. — 23.07.)** Аддыхніся, палічы да дзесяці — ведаеш, што злосць шкодзіць красе! Кароткая сустрэча з даўнім знаёмым, аднаўленне кантактаў. Настрой будзе ў цябе добры, калі нават штосьці не зладзіцца з арганізмам (лішне не пі і не наядайся). Цяжка будзеш пераносіць кантраляванне сваіх дзеянняў. 2-4.12. можаш лёгка ўсвядоміць сабе, якая крохкая твая фінансавая будучыня; не адчайвайся, бярыся за работу.

**(24.07. — 23.08.)** Схочаш быць панам свайго лёсу — гора тым, хто стане на тваёй дарозе! 1-3.12. дробнае здарэнне можа шмат тваіх спраў перакуліць дагары нагамі. У снежні як найбольш часу праводзь дома, не падарожнічай з сям'ёй. На працы стагнацыя. Худы месяц — час пагашвання даўгоў.

**(24.08. — 23.09.)** Заззяеш поўным бляскам, будзеш свядомы сваёй вартасці. Час спрыяе выездам, наведванню сваякоў. 5.12. можаш акдрыць у сабе талент; прытрапяцца табе геніяльныя задумы. 4-8.12. не ўсе будуць табе добра жадаць, хтосьці яўна можа стануць насуперак цябе. На працы спакой, без уздымаў і падзенняў; трымайся свайго.

**(24.09. — 23.10.)** Глядзі, чаго прагнеш, бо можаш тое здабыць, і тады што?! З 7.12. прыліў вялізнай энергіі; справішся ў цяжкіх сітуацыях. Будзеш патрабаваць шмат кахання і ўвагі. Форма будзе ў цябе добрая, але не налягай на салодкае. Добры час на паход у касметычны салон, варта парэабілітаваць таксама спіну і калені. 4-8.12 не вырашай важнага ў кар'еры.

**(24.10. — 22.11.)** Чакае цябе шмат завіраванняў, але ў каханні будуць удачы (хаця дробныя расчарванні ў пачуццях могуць чакаць Скарпіёнаў з 8-12.12.). Стрэс на працы адмоўна можа адбіцца на тваім здароўі. Еж лёгкае, адпачывай, шпацыруй. Час 2-6.11. спрыяе інвестыцыям. 3-5.12. добры час на фінансавыя рашэнні, не бойся рызыкі.

**(23.11. — 22.12.)** 5.12. прыбудзе табе мноства задум і падказак смелых рашэнняў; маеш шанц развязаць многа загадак. У Стральцоў у трывалых парах спакойны месяц. Чакае цябе многа добрага, хаця скрыгітаў і канфліктаў не абмінеш. Здароўю пагражаюць уласны стрэс і нервы, але калі што, адразу бяжы да лекара. У кар'еры пакажаш што можаш (аж да 21.12.). Але 1-3.12. магчымыя фінансавыя і юрыдычныя праблемы; трымайся правіл і не ідзі напрасткі.

**(23.12. — 20.01.)** Будзе вострая барацьба. Штосьці выйграеш, але можаш і штосьці страціць. Зайздрасць каханай асобы. Увесь месяц ласомства (старайся есці вострa прыпраўленае, лепш переварыш). 7.12. рушыць з капыта твая кар'ера.

**(21.01. — 19.02.)** 4-8.12. не дай сябе ашукаць і старайся не памыліцца; не пазычай грошай. Але чакаюць цябе шчасце, радасць і ўдачы. Толькі не дай ім усыпіць сваёй пільнасці! Старайся за павышэнне. Увесь месяц нават беспрацоўных Вадалеяў падтрымліваюць зоркі; намячаюць новыя дарогі прафесійнага развою. Дом — твая крэпасць. Актыўнае жыццё і пазітыўнае мышленне захаваюць цябе ад хвароб і зімовай дэпрэсіі.

**(20.02. — 21.03.)** Нервовы тыдзень, але вырашацца спрэчкі. Нервы будуць у цябе напятыя як пастронкі (пі магній і зёлкі). Шматлікія ўздымы і ўпадкі ў адносінах з дзецьмі. 4-8.12. праблемы на працы, працадаўца можа цябе няміла задзівіць. Не пераборшч таксама са здароўем. Шукай новых крыніц заробку — ужо за вуглом можаш сустрэць штосьці, што цябе задаволіць.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

1. службовы ранг, 2. частка бота, што закрывае лытку, 3. інданезійская выспа на ўсход ад Явы, 4. „партнёрка” гарэлкі, 5. колішні хатні млын, 6. матэматычная невядомая, 7. выніковае заканчэнне шахматнай партыі, 8. дробныя часцінкі ў вадкасці, якія ўчыняюць яе каламутнай, 9. невялікі скрутак, 10. суцэльная каменная глыба (хлусня плюс літоўская „залатоўка”), 11. марка савецкіх матацыклаў з Іжэўска, 12. дзяржава каралевы Лізаветы II, 13. праём у сцяне на... свет, 14. навука аб формах руху матэрыі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — англійская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 43 нумара**

Восень, вош, дыван, Ева, лата, лес, сказ.

Рашэнне: **Ласкавае слова што веснавы дзень**.



Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Здымак партызанаў атамана „Чорта”

**Дваццаць гадоў таму наваколле Дубіч-Царкоўных стала для мяне ледзь не другой бацькаўшчынай. Я праводзіў тут даволі шмат часу, нават набраўся тутэйшай гаворкі. Калі аднойчы вярнуўся дадому і стаў расказваць „Хлопці з Грабовця...”, маці перапыніла мяне, жартуючы: „Ну і падляш зрабіўся...”. Прыцягвала мяне туды легенда беларускіх партызанаў пачатку дваццатых гадоў мінулага стагоддзя, якія змагаліся за Беларускую Народную Рэспубліку. Тады гэта была жывая легенда, сустракаліся з братамі і сваякамі партызанаў, а нават з двума чалавекамі, якія хлопцамі былі партызанцкімі сувязнымі — Цімафеем Балієвічам і Уладзімірам Германюком з Доўгага Броду.**



Прайшло дваццаць гадоў і падчас апошняга побыту ў Дубічах-Царкоўных я зразумеў, што партызанская гісторыя памалу адыходзіць у нябыт. Памерлі ўжо тыя, хто помніў партызанаў, маладое пакаленне жыве ўжо іншымі справамі. А помніць маем абавязак, каб здзейсніўся партызанскі запавет: „Вашы імёны Народ Беларускі запіша навекі ў сваім сэрцы!”.

У 1921 годзе ў Грабавец вярнуўся Герман Шыманюк, сын Дзям'яна. Герман яшчэ да першай сусветнай вайны выехаў у Маскву, дзе працаваў дворнікам, ды адначасова вучыўся ў гімназіі. Пасля заканчэння вучобы працаваў акторам у тэатры „Буф”. У 1921 г. вярнуўся ў Грабавец з жонкай Лізай (карэннай масквічкай) і маленькай дачкой Надзяй. У гэты самы час у Агародcalnічкі пад Беластокам вярнулася Вера Маслоўская (з роду Матэйчукоў), якая была раней настаўніцай беларускай школы ў Грабаўцы. Маслоўская і Шыманюк стварылі разам падпольную арганізацыю, якая змагалася за Беларускую Народную Рэспубліку. Арганізацыя прыняла назву Брацтва сялян беларусаў. Змоўшчыкі ўвайшлі ў кантакт з літоўскім партызанскім штабам у Мерачы, які займаўся арганізацыяй беларускіх партызанаў, прызнаўшых эміграцыйны ўрад БНР у Коўне. З Мерача перакідалі зброю і на Беласточчыну. Г. Шыманюк, які прыняў псеўданім „Скамарох”, назначаны быў атаманам Гарадзеншчыны. Самыя моцныя ячэйкі арганізацыі існавалі ў Грабаўцы, Дабрывадзе, Чахах-Арлянскіх, Вітаве, Малочках, Белавежы, а таксама ў Саколцы. Штаб памяшчаўся ў Агародн ічках. Ужо на пачатку сакавіка польская паліцыя даведалася ад свайго агента, які пранік у арганізацыю, пра падрыхтоўку да ўзброеных дзеянняў. У сувязі з тым праведзены былі шматлікія арышты. Сярод арыштаваных была і Вера Маслоўская.

Пасля хвалі арыштаў частка падпольшчыкаў схавалася ў Белавежскай пушчы. На паляне сярод лесу расклалі абоз, паставілі шалашы. Калі з Коўна вярнуўся „Скамарох”, ён даў загад Івану Грыцуку „Чорту” арганізаваць баявы аддзел. Іван Грыцук з'яўляецца для мяне постаццю таямнічай, няма ў мяне пра яго ніякіх звестак. Калісьці я паверыў запіскам Васіля Петручука, якому нехта сказаў, што атаман „Чорт” — ён жа „Скамарох”. Усё-такі памяць падвяла аднавяскоўцаў Германа Шыманюка. Іван Грыцук гэта іншая асоба. Пад непрысутнасць „Скамароха”, які зноў падаўся ў Коўна, у красавіку 1922 г. „Чорт” распачаў актыўную дзейнасць. Яго людзі напалі на сям'ю гаёвага Яна Алькевіча ў Вітаве, падпалілі склад драўніны між Чаромхай і Гайнаўкай, праўдападобна таксама яны спалілі чыгуначны мост на рацэ Нараўцы ў наваколлі Белавежы. На канец напалі на мястэчка Кляшчэлі. Аб намеры нападу каменданта пастарунка паліцыі ў Кляшчэлях паведаміў сам Грыцук адмысловым пісьмом з пячаткай Брацтва сялян беларусаў. Сам сябе Грыцук назваў „камендантам аддзела тэрарыстаў”. Напад быў крывавы. Пяртызаны забілі двух паліцыянтаў і пераняли шмат зброі. Пасля напалі на рэстаран, забілі яго ўласніка і зрабавалі. Напалі таксама на каталіцкую плябанію.




У адказ аддзелы войска і паліцыі акружылі пушчу і знайшлі партызанскі абоз, але партызаны здолелі вырвацца. Накіраваліся ўразброд у Літву, але шэсць чалавек з іх ліку было схопленых. Чатыры партызаны: Андрэй Тамашук, Іван Захарчук, Іван Піцэлюк і Дзям'ян Мартынюк былі прыгавораны ваенна-палявым судом да смяротнага пакарання і расстраляны 24 траўня 1922 г.

Аб расстрэле паведаміў часопіс „Беларускі партызан” з адрасам рэдакцыі „Белавежская пушча”. Рэдактарам значыўся „Герман Скамарох”. Даследчыкі сумняваюцца, што партызаны маглі самі выдаваць часопіс перш за ўсё таму, што гаварылі яны на дыялекце і літаратурнай беларускай мовы не ведалі. Вера Маслоўская расказала Ю. Туронку, што „Скамарох” сапраўды складаў вершы на дыялекце, а яна дарабляла „аканне”, „дзеканне”, „цеканне”. Як месца выдавання часопіса бачыцца хутчэй за ўсё літоўскі Мерач. Тым не менш, начальнік тамашняга партызанскага штаба Вячаслаў Разумовіч „Хмара”, які шмат пісаў пра свае дзеянні, яшчэ больш пры тым прыхарошваючы іх, ніколі не пахваліўся выданнем „Беларускага партызана”, што безумоўна зрабіў бы, каб такое было. Такім чынам, адрас рэдакцыі: „Белавежская пушча” застаецца.

У Літве Г. Шыманюк надалей арганізаваў падпольную дзейнасць і прыняў удзел у І З'ездзе Беларускага стралецкага саюза 26-27 лютага 1923 г. у Коўне. Але яшчэ ў сярэдзіне гэтага месяца Рада Лігі нацый прызнала мяжу між Польшчай і Літвой, і літоўцы адказаліся ад падтрымкі ўзброенага змагання на землях, якія дасталіся Польшчы. Беларускія дзеячы і партызаны былі пакінуты самі сабе.

На зломе 1923/1924 гадоў Г. Шыманюк перабраўся ў Савецкую Беларусь, дзе легалізавалі яго пад прозвішчам Паплаўскі. Пад гэтым прозвішчам прынялі яго ў кампартыю і накіравалі ва ўніверсітэт. Праз два гады, пасля заканчэння курсаў накіравалі яго ў Полацк раённым начальнікам па гандлю. У 1932 г. ён ужо ў Мінску кіраўніком чыгункі, а праз год у Магілёве дырэктарам ветэрынарнага тэхнікума. А ў 1935 г. яго арыштавалі і абвінавацілі ў „полнейшем политическом и бытовом разложении и злоупотреблениях”, а канкрэтна ў шпіёнстве і распусце са студэнткамі. Справа Шыманюка праходзіла па крымінальным, а не палітычным артыкуле. Сядзеў недзе ў БССР, а ў 1937 г. рашылі адправіць у ссылку і прывезлі ў Мінск. Тут „Скамарох” тлумачыўся, што верна служыў Савецкаму Саюзу, а супрацоўніцтва з літоўцамі было толькі маскіроўкай.

Калі на зломе тысячагоддзяў Дзяржаўны камітэт архіваў Беларусі звярнуўся да Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь з просьбай дапамагчы ўстанавіць далейшы лёс, дату і месца смерці Г. Шыманюка, атрымаў адказ, што ніякіх звестак КДБ не мае. Тым часам у гэтай жа ўстанове захаваліся звесткі пра тысячы людзей, якія сутыкнуліся з НКВД якім-небудзь чынам. Толькі па „Скамароху” след прапаў! Або яму была дадзена новая ідэнтычнасць і заслалі яго куды-небудзь як супернелегала, або пайшоў у ссылку пад іншым прозвішчам. Хутчэй за ўсё атамана недзе потайкам расстралялі. Такі сам быў лёс тых ягоных партызанаў, якія перабраліся ў Савецкі Саюз.

Калі я рыхтаваў свой зборнік „Жаўнеры БНР”, рэдакцыя перадала мне пяць здымкаў беларускіх партызанаў, з якіх падпісаны быў толькі адзін — атаман Іван Грыцук „Чорт”. Гэтыя здымкі змешчаны на вокладцы маёй кніжкі разам з партрэтамі Макара Краўцова (Касцевіча), Станіслава Булак-Балаховіча і Алеся Гаруна (Прушынскага). Толькі рыхтуючы другое выданне я ўцяміў, што ўсе здымкі партызанаў — выразкі з аднаго супольнага здымка! На маю просьбу мастак Міраслаў Здрайкоўскі з дапамогай камп'ютарнай тэхнікі зрабіў рэканструкцыю гэтага здымка. Атаман „Чорт” сядзіць пасярэдзіне. Засталося толькі адно пустое месца. Маю надзею, што і яно калісьці запоўніцца...

**Алег ЛАТЫШОНАК**

ISSN 0546-1960